

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

18 ЛЮТАГА 2000г. № 7/4039 КОШТ 65 РУБ.




**Святло бяроз...**

*Фота А. Захарава*

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **250 рублёў**, на квартал — **750 рублёў**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **760 рублёў**, на квартал — **2 тысячы 280 рублёў**.*

**Наш індэкс — 63856.**



# КОЛА ДЗЁН

***64-гадовага бацьку-пенсіянера саштурхнула з балкона сёмага паверха... дачка, дырэктарка аднаго з мінскіх ЗАТ... 30-гадовы жыхар вёскі Гарошкава Рэчыцкага раёна дапіўся да таго, што зваліўся з уласнае печы, ударыўся скронню і сканаў... Тройчы судзімы гамяльчанін скраў на адных з гарадскіх могілак 36 бронзавых надмагільных шыльдаў... Дзве 20-гадовыя жыхаркі Жлобіна нажамі парашылі свайго 42-гадовага сабутэльніка... У вакне аднаго з дамоў дачнага пасёлка Дзвіна ў Віцебскім раёне знойдзены труп мужчыны: з нажом і пілой лез ён у хату з надзеяй чым-небудзь пажывіцца, ды так і памёр на падваконніку... У адной з кватэр на сталічным праспекце Ф. Скарыны двое вымагальнікаў амаль два месяцы, яшчэ з канца мінулага года, трымалі заложніка, патрабуючы з яго 10 тысяч долараў...***

***Гэтая жахлівая крымінальная хроніка ўзята з аднаго нумара "Звязды" — за 15 лютага г.г. Госпадзе, што ж гэта з намі робіцца? Да чаго мы дажыліся? З чым уваходзім мы ў двухтысячны год? З якімі поспехамі-дасягненнямі? Што нас уратуе? І што найперш трэба ратаваць — душу ці цела? Факты крычма крычаць аб адным: ратаваць трэба — душу! А яна ж ратуецца адно любоўю. Святым пачуццём любові да роднай зямлі. А яшчэ — святою малітваю за свой край і свой народ, за яго ныя шчасце, волю і незалежнасць...***

### МАНІТОРЫНГ ТЫДНЯ

Над адным з будынкаў Інстытута фізікі НАН установлена стацыянарная лідарная станцыя па кантролі за станам атмасферы над Мінскам. За мяжой лідарная тэхніка развіваецца імкліва, там даўно зразумелі яе шырокія магчымасці. І ўсцешна, што і нашы вучоныя ў гэтай галіне не апошнія, а ў сім-тым нават і першыя. Вядома, станцыя сама па сабе не палепшыць паветра над нашай сталіцай, аднак жа скажа, чым мы ўсе дыхаем, а заадно і пакажа, прытым дакладна, дзе тое паветра самае чыстае, а дзе — самае бруднае. А гэта ўжо крок у накірунку да выпраўлення зусім не ружовай экалагічнай сітуацыі ў сталіцы Беларусі...

### ІКАНАПІС ТЫДНЯ

У Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава "Іканапіс і разьба Беларусі XV—XVIII стст.". Мітрапаліт Філарэт, які прысутнічаў на ўрачыстай цырымоніі адкрыцця, назваў экспазіцыю трапна і красамоўна: нацыянальным беларускім багаслоўем у фарбах. Акурат гэтак яно і ёсць. Творы, прадстаўленыя на выставе, нясуць на сабе адбітак сваіх творцаў — майстроў гэтай зямлі і гэтага народа. Яны відочна адрозніваюцца ад твораў такога кшталту, створаных, скажам, у Расіі. Бо беларусы — гэта ўсё ж іншы народ, носьбіт іншай мовы, іншага менталітэту і ў значнай меры — іншай веры...

### МТС ТЫДНЯ

У Лагойску прайшоў рэспубліканскі семінар па падрыхтоўцы сельскагаспадарчых прадпрыемстваў да вясновых палявых работ і стварэнні моцнай кармавой базы ў 2000 годзе. Зрэшты, усё звялося да знаёмства з вопытам стварэння тут першай у краіне МТС. Старэйшыя людзі яшчэ памятаюць колішнія машынна-трактарныя станцыі, якія пасля былі зліквідаваны, з перадачай тэхнікі непасрэда ў калгасы. МТС, што пацвердзіў шматгадовы вопыт, сябе не апраўдалі. Аказваецца, хтосьці ў гэтым усумніўся. І вось яны зноў ствараюцца. Праўда, старая абрэвіятура чытаецца трошачкі іначай — машынна-тэхнічная станцыя, але сутнасць застаецца ранейшай: абслугоўваць калгасы. З цягам часу МТС павінны быць у кожным раёне краіны. А стварэнне першай з іх ужо названа не інакш, як вымогай самога жыцця. Што ж, мы зноў, каторы ўжо раз, наступаем усё на тыя ж граблі...

### НЮАНС ТЫДНЯ

Красамоўны факт паведаміла ў сваім допісе карэспандэнтка "Рэспублікі" І. Багдзевіч. Распавяла яна пра семінар лектараў нямецкага фонду Р. Боша, якія працуюць са студэнтамі універсітэтаў і інстытутаў у краінах СНД. Дык вось, лектар-немец, які працуе ў Вільні, вывучыў літоўскую і рускую мовы, рыжскі — латышскую і рускую, а вось мінскі немец-лектар — толькі рускую... Паказальны нюанс, ці не праўда?

### ФАКТ ТЫДНЯ

Друк паведамляе, што расійскія вучоныя зрабілі цікавы падлік. Аказваецца, за ўсе школьныя гады дзеці праводзяць ля экранаў тэлевізараў каля 15 тысяч гадзін. Калі гэтую лічбу падзяліць на колькасць дзён за 10 гадоў вучобы, дык атрымаецца, што тэлевізар штодня забірае ў дзяцей больш за 4 гадзіны часу. Гэта — у расійскіх дзяцей. А ў нашых? Больш — наўрад ці, але ж, пэўна, і не менш...

### ПІСЬМО ТЫДНЯ

Стала вядома новая паслуга "Белпошты". Нават — дзве. Першая — двайны канверт. У звычайны канверт укладваецца яшчэ адзін, трошкі меншага памеру, — для ліста ў адказ. Двайныя канверты прызначаюцца найперш для перасылкі камерцыйнай карэспандэнцыі і ў вольным продажы іх не будзе. А другая паслуга — "пісьмо першага класа". За пэўную дадатковую плату такі "першакласны" ліст прыйдзе да адрасата (у межах Беларусі) на дзень ці на паўдня хутчэй. Праўда, дастаўка яго дахаты не прадугледжваецца. Многага хочам?!

### ЦВЯРОЗАСЦЬ ТЫДНЯ

"Народная газета" 16 лютага надрукавала артыкул вядучага навуковага супрацоўніка Цэнтра знешне-эканамічных даследаванняў Расійскай акадэміі навук Ю. Годзіна "Да новага этапу двухбаковай інтэграцыі". Можна было б не звяртаць на яго асаблівай увагі, калі б не адна акалічнасць. Аказваецца, куфэрачак адчыняецца вельмі проста. Вось якой сентэнцыяй заканчвае свой артыкул у беларускай газеце расійскі вучоны: "Неабходна цвяроза адносіцца да таго, што страта Беларусі ў якасці саюзніка сур'ёзна паслабіць пазіцыі Расіі на заходніх рубяжах. І тады РФ страціць, відавочна, назаўсёды апошні вольны выхад на заходнія рынкі. Гэтага не павінна здарыцца".

Трэба да гэтага што-небудзь дадаваць, браткі-беларусы?!.

### ДЫЛЕМА ТЫДНЯ

На гадавым сходзе Акадэміі аграрных навук Беларусі аналізаваліся асаблівасці і прыярытэтныя накірункі развіцця розных галін сельскагаспадарчай навукі на бліжэйшыя пяць гадоў. На гэты год вучонымі-аграрнікамі прапанаваны для асваення ў вытворчасці 134 закончаныя навуковыя распрацоўкі. Для іх навукова-метадычнага суправаджэння патрабуецца 81 мільён рублёў. Але іх, на жаль, няма. Сродкі могуць быць выдзелены з інавацыйнага фонду Мінсельгасхарчу, а таксама з фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі.

ВЫСТАВЫ

## Дакрананне да крыніцы духоўнасці

Сёння ў памяшканні Нацыянальнага выставачнага цэнтра "БЕЛЭКСПА", што знаходзіцца ў сталіцы па вуліцы Янкі Купалы, 27 (раней тут размяшчалася экспазіцыя дасягненняў народнай гаспадаркі Беларусі), завяршае работу Рэспубліканская выстаўка "Беларуская кніга-99", арганізатарамі якой сталі Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку, Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў" і ЗАТ "Тэхніка і камунікацыя". Усяго ў мінулым годзе 10 дзяржаўнымі выдавецтвамі і больш чым 400 недзяржаўнымі, а таксама іншымі суб'ектамі, што маюць права займацца выдавецкай дзейнасцю, было выпушчана 6 тысяч назваў кніг агульным тыражом больш як 63 мільёны экземпляраў. З іх на выстаўку трапіла 1500 назваў, выпушчаных усімі дзяржаўнымі і 36 недзяржаўнымі выдавецтвамі.

Як развіваецца сёння кнігадрукаванне ў нашай дзяржаве, журналісты змаглі даведацца з выступлення намесніка старшыні Дзяржкамдруку С. Нічыпаровіча на прэс-канферэнцыі, арганізаванай з нагоды гэтай важнай падзеі. Было прыемна пачуць, што па-ранейшаму вялікая цікавасць чытача да класічнай літаратуры. І гэта невыпадкова: у такой літаратуры людзі бачаць крыніцу духоўнасці і імкнуцца часцей далучацца да яе. Разам з тым С. Нічыпаровіч гаварыў і аб праблемах, што стаяць сёння перад тымі, хто мае дачыненне да выпуску літаратуры. Асноўныя з іх можна вырашыць толькі на дзяржаўным узроўні. У прыватнасці, трэба зрабіць усё магчымае, каб беларуская кніга стала канкурэнтназдольнай. А для гэтага неабходна, каб былі зняты асобныя віды падаткаў.

Адкрываючы выстаўку, старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку М. Падгайны



зазначыў, што правядзенне падобных штогадовых выставак у нашай краіне стала традыцыйным. Ён звярнуў увагу і на тое, што не ўпершыню праводзіцца і яшчэ адна выстаўка, мэта якой — знаёмства з новымі дасягненнямі ў галіне паліграфіі, выдавецкай дзейнасці і рэкламы. А наконт наяўнасці як дзяржаўных, так і недзяржаўных выдавецкіх структур, заўважыў, што ўсе яны аднолькава родныя.

І сапраўды, асобныя недзяржаўныя выдавецтвы не ганяюцца за "лёгкім чтивом", а выпускаюць сацыяльназначную літаратуру. Прытым на высокім паліграфічным узроўні. Тым больш прыемна, калі пад эгідай недзяржаўнага выдавецтва выходзіць не проста змястоўная, з густам аформленая, выкананая на высокім паліграфічным узроўні кніга, а кніга на беларускай мове.

А што гэта так, няхай пакуль і не гэтак часта, як хацелася б, пераканаў і чарговы Рэспубліканскі конкурс "Мастацтва кнігі", які прайшоў 8 лютага. Лепшымі кнігамі 1999 года прызнаны "Веткаўскі музей народнай творчасці" (выдавецтва "Беларусь"), "Яўгеній Анегін" А. С. Пушкіна (выданне Беларускага фонду культуры), каталог-даведнік "Белорусский союз дизайнеров", выпушчаны гэтай арганізацыяй. А яшчэ кніга У. Ягоўдзіка "Сем цудаў Беларусі", жыццё якой дало недзяржаўнае выдавецтва "Кавалер-Поблишерс".



У рамках выставы адбыліся прэм'еры асобных кніг, сустрэчы з іх аўтарамі. Некаторыя выданні, а таксама газеты, часопісы можна было набыць у выязных кіёсках "Белсаюздруку".

**Н. К.**

*Фота М. ПРУПАСА.*

## У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Чарговай тэмай адкрытага ўрока для школьнікаў, якія праходзяць у пісьменніцкай бібліятэцы, была творчасць паэта, перакладчыка і публіцыста Валянціна Тараса, якому нядаўна споўнілася 70 гадоў. Разам з юбілярам на сустрэчу з навучэнцамі 91-й сталічнай школы прыйшоў народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, які расказаў пра творчасць сябра і паплечніка, прачытаў верш, прысвечаны юбіляру.

В. Тарас чытаў свае творы, адказаў на шматлікія пытанні прысутных. Ад імя Саюза пісьменнікаў юбіляра вітаў намеснік старшыні саюза Навум Гальпяровіч.

●

Трывалыя творчыя сувязі ўсталяваліся паміж пісьменніцкай арганізацыяй і навучэнцамі Навапольскага сельскагаспадарчага тэхнікума Валожынскага раёна. Нядаўна гасцямі будучых спецыялістаў сельскай гаспадаркі былі паэт Навум Гальпяровіч і бард Алесь Камоцкі. Гучалі вершы і песні пра каханне, любоў да роднай зямлі.

Гэта ўжо другая такая сустрэча пісьменнікаў і навучэнцаў у гэтым навучальным годзе, а да яго заканчэння літаратары яшчэ не раз наведаюць тэхнікум.

●

Ідзе падрыхтоўка да сустрэчы ўдзельнікаў акцыі "Літэкспрэс-2000" у якім, як вядома, разам з пісьменнікамі сарака краін свету прымуць удзел і прадстаўнікі нашага творчага саюза. З 8 па 10-га ліпеня ўдзельнікі акцыі будуць на Беларусі, і задача творчага саюза — як мага больш поўна пазнаёміць літаратараў свету з дасягненнямі беларускай літаратуры. З гэтай мэтай рыхтуюцца матэрыялы пра беларускіх пісьменнікаў, пераклады іх твораў на вядучыя еўрапейскія мовы. Адбудуцца сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў, у бібліятэках Мінска, у рэдакцыях літаратурна-мастацкіх выданняў. Пра падрыхтоўку і мерапрыемствы "Літэкспрэса-2000" Саюз пісьменнікаў плануе аператыўна інфармаваць грамадскасць краіны.

●

Вялікая вечарына, прысвечаная беларускай літаратуры адбылася ў Карэлічах. Цэнтральная бібліятэка раённага цэнтра падрыхтавала праграму, у якой прынялі ўдзел паэты мясцовага літаб'яднання, творчы калектыў музычнай школы. У вечарыне прыняла ўдзел в.а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, якая падарыла аматарам літаратуры каля трыццаці кніг з новымі творамі беларускіх пісьменнікаў, расказала аб рабоце творчага саюза, адказала на шматлікія пытанні прысутных.

**Н. К.**

ІМПРЭЗЫ

## Спевы ўчора, сёння, заўтра!

Падзеі такога кшталту ў "хроніку мясцовага жыцця" ніяк не укладаюцца, бо ўжо сталіся часткай культурнага жыцця краіны. Дый нават суседзі — украінцы, расіяне — часам становяцца ўдзельнікамі гэтых падзей, прыязджаючы на традыцыйныя музычныя імпрэзы Гомельскага каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага. Перад самым новым годам прайшоў тут чарговы фестываль лаўрэатаў, а ў лютым, як заўсёды, збіраецца Пеўчая акадэмія.

*Сёлета яна — шостая.* Праграма (чарговае канцэртаў, пасяджэнняў навуковай канферэнцыі, майстаркласаў, сустрэч з гасцямі, адкрытых урокаў) замацоўвае лепшыя мастацка-асветніцкія, навучальна-метадычныя традыцыі і ўражвае творчым падыходам яе складальнікаў. Гэтым разам за тры дні (17—19 лютага) навучэнцы каледжа, выкладчыкі, меламаны маюць магчымасць спрычыніцца да мастацтва Акадэмічнага народнага хору Беларусі пад кіраўніцтвам М. Дрынеўскага; пазнаёміцца з гасцямі — Акадэмічным хорам Бранскага музычнага вучылішча пад кіраўніцтвам І. Арловай; паслухаць прафесійныя парады вядучых айчынных практыкаў і педагогаў В. Роўды, Л. Каспорскай, Л. Івашкова, В. Аўраменкі; абмеркаваць навуковыя даклады гомельскіх ды мінскіх спецыялістаў; сустрэцца з кампазітарам А. Мдзівані...

А хіба не інтрыгуе абвешчанае на сённяшні вечар выступленне зводнага хору выкладчыкаў музычных вучэльняў Міністэрства культуры і Гомельскага каледжа мастацтва (мастацкі кіраўнік В. Роўда, кіраўнік А. Сабалеўская)!

Заўтра — закрыццё VI Пеўчай акадэміі. Канцэрт абяцае быць папрэм'ернаму святочны: пад кіраўніцтвам дырыжора П. Вандзілоўскага ў выкананні Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі, дзіцячага хору "Крынічка" ды салістаў прагучыць кантата Д. Пергалезі "Stabat Mater". Дадамо, што, апроч каледжа, да арганізацыі імпрэзы спрычыніліся Міністэрства культуры, Беларуская акадэмія музыкі, упраўленне культуры Гомельскага аблвыканкама і абласная філармонія.

**С. Б.**

ВІНШУЕМ!

# Артыст, якому верыш



...Ён з'явіўся на сцэне: маленькі, нікчэмны, апрануты ў прыгожы халацік. Натхнёна загаварыў, забалабоніў, схіліўшы на свой бок усіх жыхароў фальварка Сцяпанчыкава. Гэта іх бог, гэта іх ідал, вітайце ўсе Фаму Фаміча Апіскіна!..

У спектаклі Купалаўскага тэатра "Вечны Фама" акцёр Генадзь Аўсяннікаў стварыў знаёмы па тэлеэкране вобраз: папуліста, шараговага чалавека, які, аднак, кіруе, распараджаецца ды вырашае чалавечыя лёсы. Фама ў выкананні Г. Аўсяннікава захапляе, выклікае ўсмешку і, вядома, шчырыя апладысменты.

19 лютага акцёру Нацыянальнага тэатра імя Я. Купалы, народнаму артысту Беларусі Генадзю Аўсяннікаву споўніцца 65 гадоў. На жаль, спектаклі сыходзяць з падмосткаў, і таму ўжо ў мінулым засталіся такія адметныя акцёрскія работы Аўсяннікава, як Цярэшка Калабок ("Трыбунал"), дзед Цыбулька ("Таблетку под язык"), Мурашка ("Мудрамер"), за ролі якога артыст быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. Сёння Генадзь Аўсяннікаў іграе ў спектаклях "Ажаніцца — не журыцца", "Страсці па Аўдзею", "Ідылія", і, канешне, "Вечны Фама".

ЮБІЛЕІ

# "Сачу за лёсам вучняў"

Мінскае музычнае вучылішча імя М. Глінкі нядаўна адзначала сваё 75-годдзе. Пэўны час гэта была адзіная навучальная ўстанова, дзе рыхтаваліся высокапрафесійныя кадры для нашай культуры. Ды і сёння, дзякуючы педагогам вучылішча, творчыя таленты маюць магчымасць раскрыцца і вызначыць свой далейшы прафесійны шлях. А таленавітых настаўнікаў колішнія вучні ўспамінаюць з асаблівай удзячнасцю. Вось і нядаўна людзі вядомыя і малавядомыя, заслужаныя і народныя артысты Беларусі сабраліся ў вучылішчы, каб выказаць словы падзякі і павіншаваць сваю любімую выкладчыцу, сяброўку і калегу ажно з двума юбілеямі: 70-годдзем з дня нараджэння і 50-годдзем прафесійнай дзейнасці.

Худзенькая, невялікага росту, прыгожая, з бяздоннымі блакітнымі вачамі жанчына, Яўгенія Барысаўна Назаранка на пачатку сваёй кар'еры шэсць гадоў працавала ў звычайнай агульнаадукацыйнай школе настаўніцай спеваў, а потым прыйшла ў Мінскае музычнае вучылішча, дзе і сёння выкладае на аддзяленні харавога дырыжыравання. Энергіі, бадзёрасці і энтузіязму Яўгеніі Барысаўне хапае для кожнага студэнта.

— Студэнты — гэта шчасце, — прызнаецца яна. — Кожны новы студэнт — гэта новае жыццё. І няхай гады бяруць сваё, душой я маладая, таму што жыву жыццём сваіх вучняў. Я зразумела, які вялікі гонар — быць выкладчыкам, не проста прыходзіць на ўрокі і нешта расказваць, а цікавіцца жыццём студэнтаў, іх праблемамі. Я лічу, што выкладчык павінен не толькі дапамагчы вучням атрымаць прафесію, у першую чаргу яго задача — сачыць за іх далейшым лёсам і іх далейшай кар'ерай. А вучні павінны перарасці свайго педагога. Дрэнным лічыцца той выкладчык, чые вучні дасягаюць толькі ягонага ўзроўню. Ім трэба ісці далей, вучыцца самастойна, дасягаць сваёй мэты. Я заўжды верыла і веру ў сваіх студэнтаў...

Дзверы дома выкладчыцы заўжды адкрытыя для былых вучняў, а цяпер ужо і сяброў. А іх нямала, і многія імёны гаворацце самі за сябе: заслужаны артыст Беларусі Якаў Навуменка, мастацкі кіраўнік ансамбля "Купалінка" Алена Цялькова, завуч МВВ імя М. І. Глінкі Людміла Стульская, кампазітар і хормайстар Аляксандр Рашчынскі, — гэты спіс можна доўжыць і доўжыць. Прыемна, што вучні ды калегі не забываюць Яўгенію Барысаўну. Актавая зала вучылішча была ў юбілейны вечар перапоўненая. Былыя студэнты рыхтавалі



віншаванні разам са сваімі выкаладчыцамі калектывамі. У гонар Педагога гучалі песні, выконваліся танцы, а цяперашнія вучні наладзілі невялікі капуснік.

Напэўна, гэта і ёсць самае вялікае шчасце для выкладчыка — ведаць, што вучні перараслі яго, назіраць за іх поспехамі і дасягненнямі. А такім людзям, як Яўгенія Барысаўна Назаранка, хочацца нізка пакланіцца, пажадаць моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і таленавітых вучняў.

**Ала КУРЫЛА**

ДРУК

# "Беларуская энцыклапедыя": "перавал" узяты

Хутка-няхутка, але справа рухаецца. Здаецца, яшчэ не так і даўно, а было гэта ў 1996 годзе, мы з радасцю бралі ў рукі першы том "Беларускай энцыклапедыі", запланаванай у 18-ці тамах. А ўжо з'явіўся дзявяты. Тым самым "перавал" узяты. Першая палова шляху пройдзена. Але гаворка не пра набыткі, здзейсненыя на ім, а пра новы том.

Як і папярэднія, ён вельмі багаты і насычаны рознымі матэрыяламі, як таго і вымагае профіль выдання, а энцыклапедыя гэтая, як вядома, універсальная характару. Усё трэба ахапіць, нічога — не прапусціць. Таму і ўвайшлі ў новы том артыкулы ўсяго ў межах слоў "Кулібін" — "Малаіта". Наконт першага, дык, бадай, ні ў кога не ўзнікне сумнення, што гэта прозвішча расійскага механіка-самавучкі і вынаходніка. Пра Івана Кулібіна мы ведаем яшчэ з часоў навучання ў сярэдняй школе. У сярэдняй школе, на ўроках геаграфіі, відаць, чулі і пра вулканічны востраў у Ціхім акіяне Малаіта, але забыліся. А магчыма, на такую "дробязь" у школьных падручніках іх аўтары не звярталі ўвагі.

Што да энцыклапедыі, дык для яе дробязяў няма і быць не можа. Выдаўцы не павінны забываць, што кожны, хто возьме яе ў рукі, захоча атрымаць для сябе інфармацыю і звесткі па розных галінах ведаў. А ў неабходных выпадках і звярнуцца да першакрыніц, а таксама да літаратуры, якая тое ці іншае пытанне асвятляе больш глыбока і ўсебакова.

А часам, калі надарыцца вольная хвіліна, і проста захочацца ўзяць том у рукі і няспешліва пачаць чытаць яго. Паверце, задавальненне, як ад цікавай кнігі, бо ў энцыклапедыі свае "сюжэты". "Спатыкнешся" на тым ці іншым артыкуле і з зайздрасцю падумаеш: як шкада, што крыжаванак не складаеш. Гэта ж такі матэрыял! Сам просіцца ў рукі.

Узяць, для прыкладу, паняцце "ліпаўка". Сёй-той, вядома, спачатку назаве аднайменную вёску, якая знаходзіцца ў Хоцімскім раёне. І не памыліцца, але ж здаўна ў беларусаў ліпаўкай называлі і выдзеўбаныя з ліпы ці з вольхі пасудзіны для захоўвання мёду. Яны былі даволі вялікага аб'ёму, умяшчалі да двух вёдзер гэтага спажыўнага і надзіва салодкага прадукту. А былі пашыраны ліпаўкі да сярэдзіны нашага стагоддзя. Ды забыліся ў народзе чамусьці пра іх. А хутчэй таму, што не засталося майстроў, якія ўмелі ліпаўкі рабіць. А дзеля гэтага ў сырой калодзе выдзёўбвалі асяродак, а пасля паволна высушвалі яе. Затым сценкі распарвалі, устаўлялі дно, нацягвалі на пасудзіну абручы. І, калі ласка, ліпаўка гатовая, можна ёю карыстацца ў гаспадарцы.

І такіх прыкладаў, уважліва прачытаўшы том, можна прывесці шмат. Няма сумнення, што знаёмства з падобнымі артыкуламі пасадзейнічае пашырэнню эрудзіраванасці. Ды і ўвогуле, падобная задача — адна з першаступенных, якія ставяць перад сабой стваральнікі "Беларускай энцыклапедыі". А ў дзевятым томе, як і ў папярэдніх, багаты не толькі інфармацыйны матэрыял. Змешчана 1048 ілюстрацый, з іх — 277 партрэтаў, 56 карт.

**Барыс ЯТРОВІЧ**

АБСЯГІ

*БРЭСТЧЫНА...*

## У гонар Міколы Засіма

Ужо некалькі год у вёсцы Каштанаўка, што паблізу Пружанаў, паціху прыходзіць у заняпад колішняя панская сядзіба — дом, прыбудоўкі, стары парк. На пасяджэнні каардынацыйнага савета аблвыканкама па ахове матэрыяльнай і духоўнай спадчыны вырашана паскорыць працу па стварэнні тут, на сядзібе, мемарыяльнага музея Міколы Засіма, тым больш, што малая радзіма паэта — вёска Шані — суседзіць з Каштанаўкай.

**Уладзімір ТАРАСЮК**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Сустрэчы ў "Літаратурнай гасцёўні"

Абласная газета "Гомельская праўда" адну са сваіх старонак у чарговы раз адвяла пад "Літаратурную гасцёўню". Тут змешчаны апавяданні Міхася Даніленкі, нізка вершаў ужо вядомых і пачынаючых паэтаў, рэцэнзія старшыні абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Васіля Ткачова на сатырычную кнігу "Усмешка Джаконды" Міхася Слівы (Кавалёва) з Рагачова. У гэтым нумары да чытачоў звярнуўся зямляк, народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, які ўзгадаў, што ягоныя першыя апавяданні, нарысы, урыўкі з рамана "Глыбокая плынь" былі надрукаваны менавіта ў "Гомельскай праўдзе".

## На сцэне — толькі знакамітасці

На лепшых сцэнах абласнога цэнтра прайшлі канцэрты расійскіх калектываў. У драмтэатры са спектаклем "Спячая прыгажуня" Чайкоўскага выступіў Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны тэатр класічнага балета, у якім галоўныя ролі выканалі салісты Марыінскага акадэмічнага тэатра. А грамадска-культурны Цэнтр прыняў знакаміты Дзяржаўны акадэмічны камерны "Вівальдзі-аркестр" пад кіраўніцтвам народнай артысткі Расіі Святланы Бязроднай. Яго канцэртную праграму "Пырскі шампанскага" склалі вядомыя шлягеры 20—30-ых гадоў. Адметна тое, што запрасілі "Вівальдзі-аркестр" на гастролі Гомельскі дабрачынны цэнтр "Праметэй", таварыства "Дзеці ў бядзе", асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій.

## Пейзажы Шалюты

Выяўленчае мастацтва самадзейных майстроў Беларусі не ўяўляецца без творчасці Пятра Шалюты. Ён — удзельнік самых прэстыжных выстаў, дыпламант самых розных конкурсаў. Нарадзіўся Пётр Яфімавіч на Веткаўшчыне, у юначыя гады пераехаў у Гомель, дзе і пачаў займацца жывапісам. У часы вайны быў лётчыкам-знішчальнікам. Пасля зноў працаваў у Гомелі і ніколі не забываўся на любімы занятак. Таму ягоныя палотны — радасныя па настроі — маюць пастаянных прыхільнікаў. Асабліва запамінаюцца пейзажы, напісаныя на берагах родных Сожа і Беседзі... Зараз лепшыя творы Пятра Шалюты экспануюцца ў абласным цэнтры народнай творчасці.

**Алексей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Ёсць яшчэ мецэнаты!

Кіраўнік вядомага прыватнага прадпрыемства па вытворчасці выдатнага скуранога абутку "Марка" Мікалай Мартынаў на мінулым тыдні абвясціў, што гатовы прафінансаваць аднаўленне Уваскрасенскага храма на Ратушным пляцы Віцебска. Уклад Мікалая Мартынава ў справу адраджэння старажытнага Віцебска добра вядомы: з яго ўдзелам адрэстаўраваны два дамы — помнікі архітэктуры. Горадабудаўнічая камісія днямі выдала дазвол Віцебскай епархіі на будаўніцтва Уваскрасенскай царквы — помніка архітэктуры позняга барока.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Памяці акцёра

Ужо другі год запар у Магілёўскім абладрамтэатры ладзіцца дабрачынны канцэрт памяці таленавітага акцёра Аляксандра Ташкінова. На тэатральнай сцэне Сашу ўспаміналі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, народны артыст рэспублікі Аляксандр Ткачанок, магілёўскі бард Аляксандр Баль, артысты Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Горкага, тэатра "Хрыстафор", Дзяржаўнага маладзёжнага і абласнога тэатра лялек. Сабраныя ад канцэрта грошы перададзены сям'і акцёра, дзе растуць пяцёра сыноў.

## І спорт, і мастацтва

У абласным Палацы піянераў і школьнікаў адбыўся першы рэспубліканскі фестываль спартыўна-бальнага танца "Кубак майстроў". У фестывалі, які адначасова з'яўляўся і адкрытым чэмпіянатам Магілёва, прымалі ўдзел прадстаўнікі розных узроставых груп вядучых танцклубаў Беларусі. Нягледзячы на вялікую канкурэнцыю сярод танцавальных пар, гаспадары змаглі пераканаць журы ў сваім прафесіяналізме. У дзіцячай узроставай групе пераможцамі і ўладальнікамі кубка сталі выхаванцы Магілёўскай студыі "Дэбют" Максім Ярута і Каця Жлабо. У маладзёжнай групе Гран-пры фестывалю атрымала таксама пара з "Дэбюту" — Ірына Зайцава і Аляксандр Сімановіч. Разам з мінскай парай з клуба "Яўгенія" яны заваявалі і прыз глядацкіх сімпатый.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Пра Багушэвіча і яго час

Да 160-годдзя з дня нараджэння Францішка Багушэвіча газета "Гродзенская праўда" і абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў абвясцілі конкурс на лепшы мастацкі твор — эсэ, апавяданне — пра пісьменніка і яго час. Да ўдзелу запрашаюцца літаратары, для якіх неабыякавая спадчына Багушэвіча. "Гродзенская праўда" прымае конкурсныя творы да першага верасня.

**Н. К.**

*МІНШЧЫНА...*

## Музейныя скарбы

Днямі ў Маладзечне, у абласным краязнаўчым музеі, адкрылася выстава, прысвечаная 40-годдзю гэтай установы. У экспазіцыі — сапраўдныя скарбы з музейных фондаў, слуцкі пояс, старажытныя абразы, не менш унікальныя стадарукі, адзін з буйнейшых скарбаў манет XVI—XVII стагоддзяў, знойдзены пад Маладзечнам у 1971 годзе. На выставе прадстаўлены таксама звесткі аб гісторыі краязнаўчага музея.

**Галіна НОВІКАВА**

# Пакаранне незалежнасцю

## ПРА НАЦЫЯНАЛЬНЫ СІНДРОМ "РАСКІДАНАГА ГНЯЗДА"

ЗАЎСЁДЫ зайздросціў палітыкам. Лагічнай пабудове іх думак, спакойнай перакананасці слоў, дзяржаўнай шматзначнасці ў рухах і позірках, непахіснай упэўненасці ў матэматычна вывераных грамадска-сацыяльных прагнозах і скрупулёзных аналізах дня сённяшняга. Не, сапраўды, як бы пагана мы жылі, каб не было між нас сталіных, хрушчовых, брэжневых, гарбачовых — на раённы, абласны ды іншы капыл... Ну каго, скажыце, калі ласка, мы б зараз дружна клялі, бессэнсоўна даводзячы адзін аднаму, чаму ж так і не стала наўкола ні лепей, ні весялей; чаму не аблашчыў нас непазбежна блізкі, як уласны цень, камунізм; чаму развіты сацыялізм так і не набыў хоць нейкія рысы чалавечага твару; чаму доўгачаканы 2000-ы так і не "абцяжарыў" кожнага асобнай кватэрай, не парадаваў выкананнем харчовай праграмы... Дзякаваць Богу, што хоць дажылі-дацягнулі да гэтага двухтысячнага.

Схіляю галаву перад астролагамі. За іх звышчалавечую здольнасць глядзець паўзверх галоў, нават у цемрадзі знаходзіць зоркі і бачыць толькі ім, астролагам, вядомую праўду. Палітыкі — заложнікі імгненных выгод у выглядзе папулярнасці, банкаўскіх рахункаў і ўсемагчымых прывілеяў. Усё астатняе (непацверджаныя явай абяцанні, адсутнасць рашучасці ў прыняцці кардынальных для радзімы рашэнняў) — непазбежныя выдаткі палітычнай валтузні...

Астролагі ў процівагу палітыкам шчыруюць не дзеля дня сённяшняга. Яны працуюць на гісторыю. Натуральна, не заўжды — калі пашанцуе з ажыццяўленнем прадказанага.

Найпапулярнейшы аракул Павел Глоба ў размове з беларускай радыёжурналісткай выказвае незапакоенасць інтэграцыйным лёсам дзвюх самых родных славянскіх "сясцёр" у сувязі з палітычным вэрхалам на расійскіх абсягах. З-за беларускага, не менш бязглуздага палітычнага раздраю не выключана магчымасць праяў выбуховага сепаратызму ў Брэсцкай і Гродзенскай абласцях дзесьці ў 2004 годзе. Па словах прадказальніка, крызіс чакаецца і ў Амерыцы — долар пры 44-ым прэзідэнце ЗША "разваліцца" ледзьве не разам са статуяй Свабоды. "А мы жыць будзем?" — напалохана пытаецца журналістка. Глоба аптымістычна запэўнівае, што калі ўсё гэта адбудзецца — менавіта і будзем жыць і, зрэшты, вельмі добра.

Не магу не зайздросціць астролагам, бо да слёз не стае вось гэткага здаровага цынізму ў прадказаннях уласнага заняпаду...

Чаму абяцанні высокіх дзяржаўных палітыкаў застаюцца абяцаннямі? Чаму нічога добрага, акрамя палітычных катаклізмаў, не прадказваюць астролагі? Усё проста, спадарове, — законы жанру, на ўздым культуры, адраджэнне нацыянальнай самабытнасці, на падтрымку так званага сярэдняга класа.

Улада разбэшчвае. Адна з таямніц славянскай душы. І няма чаго ківаць тут на Захад з яго паказушнымі свабодамі друку, слова і асобы, з яго нахабным суверэнітэтам, з амаль вырашаным нацыянальным пытаннем, з палітычнай самастойнасцю, замацаванай на вякі ў быццам бы непахіснай канстытуцыі. Захад ёсць Захад (не пра яго гаворка, галодны сытаму не таварыш), Усход ёсць Усход. А паміж імі — Беларусь, спрадвеку незадаволеная ў памкненні стаць вольнай і незалежнай.

Здавалася б, простая рэч: незалежнасць — гэта палітычная свабода, дараваная Богам і здаровым сэнсам магчымасць дзейнічаць без перашкод у адпаведнасці са сваімі інтарэсамі і мэтамі, адсутнасць прыгнёту і абмежаванняў у больш рацыянальным уладкаванні ўласнага грамадска-палітычнага жыцця. Ды плюс канкрэтныя эканамічныя стымулы, пры наяўнасці якіх жыць неяк інакш проста нявыгадна. Ды да ўсяго яшчэ і канстытуцыя, як асноўны закон усяго заканадаўства, гарантавана накіраванага на пабудову не сацыялістычнага, не камуністычнага, а простага, людскага і шчаслівага, жыцця. Любата атрымліваецца, дый годзе! Мёдам па душы: раўнапраўе, дэмакратызм, не разбэшчаная ўсёдазволенасць, а неўтаймаваная шырыня правоў і свабод. Па тэорыі, а на практыцы...

Заўжды чамусьці ўспамінаю Пелагею Андрэеўну Варам'ёву з пасёлка Лазарава, што на Гомельшчыне. Стаіць перад вачыма. Сагнутая гадамі ў крук, з кійком у сухіх вузлаватых руках. Выбралася са сваёй спарахнелай хаткі свежым паветрам падыхаць. Глядзіць кудысьці праз мяне невідушчымі выцвілымі вачмі. Сто два гадкі ёй, а на двары — кастрычнік 90-га, якраз пярэдадзень свята канстытуцыі колішняга СССР. Сустрэча ледзь не выпадковая — з-за пашанотнага бабульчынага ўзросту ды з-за асабістай журналісцкай цікаўнасці. Вось і няма жанчыны ўжо на свеце, але прыгадваю яе заўжды, калі зноў пераконваюся, што для кожнага шараговага беларуса шчасця ніколі не бывае шмат, а вось ад гора — не адбіцца. Нескладаная ў Варам'ёвай жыццёвая арыфметыка. Трыццаць гадоў ёй было, калі першая савецкая канстытуцыя з'явілася, створаная на аснове ленінскай "Дэкларацыі правоў працоўнага і эксплуатуемага народа" — канстытуцыя РСФСР. З утварэннем Саюза адпаведную агульную канстытуцыю прынялі. Пелагеі Андрэеўне 36 споўнілася. А да часу прыняцця другой канстытуцыі адзначыла жанчына 48-ы дзень нараджэння. Перажыла за гэты час шмат чаго, вось толькі шчасця не бачыла. Калектывізацыя "з'ела" маці, бацьку, двух братоў і сястру, якія з Калымы так і не вярнуліся. А ёй пашанцавала — неяк бокам сталінскія рэпрэсіі абышлі, галадуха злітавалася, кашчавай рукой таксама не зачапіла. Чым, зрэшты, не беларускае шчасце — проста выжыць, вытрываць насуперак усяму і ўсім, каб зноў пакутаваць і зноў верыць, што будзе лепш. Сына Васіля фінская вайна прыбрала (і каму толькі яна трэба была?), мужыка — Вялікая Айчынная знішчыла. Так і засталася бабулька Пелагея ні з чым, так і не заўважыла, як у 89 ейных год чарговы асноўны закон быў прыняты, які яшчэ раз "разняволіў ды ашчаслівіў". У 77-ым годзе тое здарылася. А да дзвюх "незалежных" беларускіх канстытуцый так, гаротніца, і не дацягнула. Волі ды свабоды не пакаштавала. А так хацелася за савецкім калгасным часам і пад'есці як след, і магілку мужыкову па-людску ўпарадкаваць, і напаўраскіданую страху да ладу прывесці, за ўсе страты, абразы ды пакуты хоць нейкую кампенсацыю атрымаць. Ну што зробіш — не пашчасціла, жыцця не хапіла...

Так і стаіць перад вачыма. Ледзьве жывая, зусім нямоглая дый з кійком у пажоўклых руках. І з тужлівым безнадзейным жаданнем разглядзець невідушчымі вачмі, дзе ж схавалася тое абяцанае ўсімі шчасце, дзеля якога бабульчына сям'я заўчасна ў нябыт адышла...

Не, справа не ў канстытуцыях. Дый не былі яны ніколі кепскімі па высакародным змесце сваім і мэтах. Справа ў нас, небараках. Гэта мы, неахайныя, неяк заўжды недацягваем да гуманнага ўзроўню законаў, інструкцый і ўказанняў. Жывём спакваля на балоце ў раскіданым гняздзе, усё больш чужым розумам перабіваемся, і ніяк з-за гэтага рашучасці не стае гняздзечка роднае як мае быць адрадзіць ды па-людску ўтрымліваць. Раз-пораз ад дабрыні душэўнай штосьці гаворыць нам няўцямнае з розных трыбунаў пра "волю з незалежнасцю", а мы, бытам затлумленыя, і ведаць не ведаем, як пакарыстацца дабротамі гэтымі ды куды ўладкаваць іх з агульнай для ўсіх карысцю. Як ні круці, а воля вольная для нас — рускіх беларусаў ці беларускіх рускіх? — такі ж міф-жах, як для ліцвінаў колішніх — прыгнёт ды бязроднасць. Ох, даўно гэта было! Нават і не верыцца, што было ўвогуле. Але (вось дзівосы!) пра свабоду самавызвалення, без якой беларус — не беларус, яшчэ Сымон Будны, аказваецца, зазначаў: "Улада была б, калі б не гасілі дух, усё выпрабоўвалі і прымалі тое, што аказалася лепшым. Дай нам Божа такую ўладу, пры якой мы не думалі б аб сабе, не прыніжалі іншых, дазвалялі казаць праўду адзін аднаму..."

Крыху наіўна казаў амаль пра тое Ян Чачот: "Грамадскае шчасце залежыць як ад добрых грамадзян, так і ад добрага ўрада. Не могуць быць добрымі грамадзяне там, дзе кепскі ўрад, і не можа быць кепскага ўрада там, дзе большасць — добрыя грамадзяне. Найлепшы ўрад будзе там, дзе большасць — добрыя грамадзяне, дзе ўсё робіцца згодна з пажаданнямі народа, а не з волі, капрызу і сілы аднаго..."

Так, не ў канстытуцыях справа. У нас з вамі. І не адзін колішні публіцыст мроіў над паперчынай у час бяссоння, даводзячы сам сабе, што "супраць грамадскай думкі зброя і любая сіла — нішто". Сябе пераканаў, а ці атрымалася — іншых? І ці была ў нас калі адзіная грамадская думка, аднадушна скіраваная на захаванне роднага дому, душы і годнасці? Хоць з Бібліі канстытуцыі пішы, хоць мільёны разоў запар паўтарай на пляцах пра незалежнасць, ані скранецца нічога з мёртвай кропкі, і не стануць нашыя гнёзды — жаданым жытлом, а напалоханыя агульным бязладдзем людзі-птушкі — талакою, народам, нацыяй, а мова — роднай, а твар — шчаслівым, а вера з надзеяй — ажыццёўленымі... Воля — усё адно што міф. Воля — свядомы выбар. А калі не хапае гэтай свядомасці, то хоць лясніся, а выбіраць цягне зусім іншае: пасаду, кар'еру, грошы, калі няма на іншае здольнасцяў — уладу, у рэшце рэшт. Выпадковыя выбухі нацыянальнай самасвядомасці ды спрадвечныя, не вельмі выніковыя адраджэнскія высілкі жменькі творчай інтэлігенцыі — толькі яшчэ адно пацвярджэнне агульнага правіла: якія б выбрыкі ні рабіла гісторыя, геапалітычныя месцазнаходжанне і функцыі "незалежнай" ад усяго Беларусі досыць стабільныя — "балацянка-выбоіна" пасярод Еўропы ў якасці мяккага, зручнага і гатовага да любога ўціску "буфера" паміж Захадам і Усходам, невялічкі лапік-палігон, на якім з кожным вітком гісторыі мэта эксперыменту не мяняецца. Нягледзячы на заканатворчасць Сапегі, асветніцтва Скарыны, "Мужыцкую праўду" Каліноўскага і самаахвярнасць братоў Гарэцкіх, пытанне "Хто такія беларусы, і як з імі змагацца?" амаль пераможна вырашана. Паабяцаць ім, патомным бедакам, працьму — і не выканаць, павесці за сабой — і ўрэшце здрадзіць. Выканаўцы эксперыменту, "вдохновители" нашага спрадвечнага і імклівага руху скрозь сабе добра разумеюць, што "незалежнасць" — не каўбаса, не скрыль сала, страўнік ёю не залагодзіш. А душа... Катэгорыя самая што ні ёсць абстрактная.

Выбар зроблены. Эксперымент працягваецца. І невялікая бяда, што хтосьці дзесьці спрабуе размаўляць па-беларуску, пакутуе сумневам, спрабуе адшукаць ва ўсім сэнс. Пустыя намаганні. Эканамічны заняпад (папросту — жабрацтва) непазбежна вядзе да духоўнай дэградацыі. Грамада — народ — нацыя — не больш чым словы. Калі няма ўдосталь каўбасы, задавальненне можна атрымліваць радасна супакойваючы адзін аднаго, што ўсё наўкола "робіцца згодна з пажаданнямі народа" — беспярэшкодна растуць-вар'яцеюць цэны, гэтак жа неўтаймавана павялічваецца ўжыванне алкаголю на занядбаную душу абыякавага насельніцтва, апошні дзяржаўны рубель укладваецца ў далейшы развал разбэшчаных уласнай бездапаможнасцю калгасаў. Менавіта "згодна з нашымі пажаданнямі" не спыняюцца інтэграцыйныя працэсы, канкрэтны вынік ад якіх на сёння толькі адзіны — недарэчнае шчыраванне на Беларусі "рускага нацыянальнага адзінства".

На Беларусі мала гультаёў. Мы не сядзім без справы. Кожны, сапраўды, незалежны ў жыццёвым выбары і ўсё робіць для таго, каб прынёс гэты выбар плён, каб былі шчаслівыя дзеці. Асобным, па іх перакананнях, гэта ўдаецца. Але вось парадокс: чым больш іншамарак на вуліцах, тым больш бамжоў пад плотам. Прырода любіць раўнавагу. Наколькі адзін слабы і хісткі ў сваіх жыццёвых жаданнях, настолькі мажны і нахабны другі. Пераразмеркаванне капіталу і духоўных каштоўнасцяў ідзе поўным ходам. Палітыкі абяцаюць — насельніцтва працягвае чакаць. Адзіны трывожны сімптом: занадта маўклівымі зрабіліся пенсіянерскія чэргі ў магазінах. Няма ўжо зацятых палітычных спрэчак-лаянак. Нібы тая невідушчая бабка Пелагея, чакаюць пакорліва нашы пенсіянеры светлае долі. Моўчкі, бязвольна, сцяўшы бяззубыя раты...

Успомніце колішняе, вычытанае з падручнікаў палітэканоміі: "Свабода немагчымая ў капіталістычным грамадстве, дзе пануе эксплуатацыя". Цяжка не згадзіцца. Як, зрэшты, і з тым, што не пахне той свабодай і ў так званым псеўдасацыялістычным (няхай крыху і рынкавым) грамадстве, дзе паняцце "наша" абмяжоўваецца рамкамі ўласнай сям'і, а словы "мая фабрыка", "мой завод", "мой калгас" — успрымаюцца няйначай як здзек. І выжываюць пры гэтай "сацыялістычнай" логіцы толькі той, у каго болей правоў, грошай і ўлады. Законы дыялектыкі, спадарове, якія дакладна прапісаныя паміж радкоў любой з нашых канстытуцый...

Усё меней анёлаў-буслоў над Беларуссю, усё болей чорнага грugання над нашымі напаўзакінутымі магіламі. Пустая буслянка ля беларускай хаты — знак няўмольнай бяды. Не, не памыляўся Купала ў сваёй сацыяльнай драме. "Раскіданае гняздо" — дакладная ява і сённяшняй Беларусі. Пятля — сякера — жабрацтва — як знакі-капцы на разорах так і не засеянай беларускай нівы. Жабрацтва — сякера — пятля... Няма супакою ў блуканнях айчынным Зяблікам. Марылі, губляючы веру ў лепшае, шыюць жабрачыя торбы. Лявоны шукаюць без стомы праўду — толькі на шыбеніцы яе і знаходзяць. Зоські штораз падманваюцца ў любові ды каханні. Данілкі ніяк не разняволяцца ў мастацтве. Бадзяюцца па свеце Сымоны ў пошуках Вялікага Сходу. Кідаюць сем'і, гнёзды. На злом галавы спрабуюць навучыцца жыць сваім розумам, агораць урэшце жабрацтва, атрымаць волю ды незалежнасць. Ды ўсё не хапае чагосьці, ні якіх паўкроку сілы не стае. Панічы з Незнаёмымі перашкаджаюць. Першыя (ці ж дурні?) за так уладу аддаць не жадаюць. Другія, сякерамі размахваючы, дзеля ўлады гэтай жаданай вядуць за сабой немаведама куды па крывавых разорах. Бедны братка Сымоне, гаротнік спрадвеку! "Горды непакорны чалавек з цябе выйшаў! Птушкаю-арлом табе лётаць па паднябесці, як лётае вецер гэты вольны! Толькі ж бяда — крылле не дадзена табе, саколе ты мой зоркавокі!" Крылле — душа чалавека. Душа — свабода (чытай — незалежнасць) не столькі знешняя (адсутнасць таталітарызму, наяўнасць вальнадумства на карысць прагрэсу грамадства...), колькі ўнутраная, дараваная тымі самымі продкамі не толькі для ашчаднага захавання духоўнай спадчыны, але і дзеля памнажэння яе, перадачы ўдзячным сынам і ўнукам.

Таму і баліць у Сымона там, дзе душа павінна быць, таму і не можа ўзняцца над сабою, а толькі енчыць з горыччу: "Хоць бы зямля тут расступілася, дык не служыўся б і ў апраметную скочыў". І скача бяздумна. З сякерай у руках ды з чужым розумам у галаве якраз чорнаму д'яблу прыслугоўваць, а не поруч з белым анёлам у паднябесці лунаць. І словы Старца, што, маўляў, людская сіла не заўсёды на дабро ідзе — як горкі папрок продкаў няўцямным спадкаемцам...

Ці патрэбна птушцы раскіданае гняздо?! Вось і пераўтвараюцца спрадвеку Сымоны Зяблікі ў Васілёў Дзятлаў ды ў Мікітаў Зноскаў — тутэйшых адшчапенцаў, касмапалітаў ды манкуртаў са слязьмі на змардаваных тварах і з прывязанай на вякі марай "людзьмі звацца".

Гэта ж мы самі калісьці (не без дапамогі добразычліўцаў-чужынцаў) выдзерлі з грудзей і сэрца і душу, і роднае слова, вырашылі ўкленчана, што граць нам да скону толькі на дудцы, скрыпачцы ды жалейцы, і гранне гэтае заўжды тужлівым ды жалобным будзе. З таго часу і баімся высокіх бадзёрых нот. А ўся наша колішняя ліцвінская непахіснасць, смеласць ды баявітасць у адстойванні свайго роднага пераймянавана кімсьці ўвобмірг у "талерантнасць з абыякавасцю". А абяцаная незалежнасць — не больш чым весела расфарбаваная бурбалка ў бляклым антуражы раскіданага "жабрацкага" гняздзечка. Мо й зразумее гэта калі-небудзь сямігадовы Юрка Зяблік, матухна Марля якога толькі ў жабрацтве і бачыць будучыню сям'і?

Сякера — жабрацтва — пятля... Гэтую мудрагелістую пятлю малое мне, недасведчанаму небараку, знаёмы ўсхваляваны эканаміст. Сістэма каардынат: па гарызанталі — бюджэт наш гаротны; па вертыкалі — велічыня падатку ад прыбыткаў. І калі перавышае ён 30-працэнтны рубеж, падыходзіць да 50-працэнтнага, то ўся дзейнасць бізнесоўцаў нашых скіроўвацца пачынае на прыхаванне прыбыткаў (інакш няма выгады і бізнесам займацца!) і закручваецца ў гэткую крывую, якая няўмольна цягне любую камерцыю ў так званы чорны бізнес. Па сутнасці, тая ж пятля на шыях вытворцаў і спажыўцоў. Згодны з апанентамі, колькі б ні было на Беларусі камерсантаў-прыватнікаў, кіраваць іх дзейнасцю (як гэта і адбываецца на славутым сытасцю Захадзе) павінна дзяржава. Але кіраваць (па-людску, гаспадарліва, з агульнай выгадай), а не камандаваць, заганяючы ўсіх пад лаву жабрацтва і пасіўнага назірання за жыццём, якое ўсё ўзбоч і міма імкнецца.

Жабрацтва — пятля — сякера... Баявая сякера-гізаўра з гістарычных раманаў Караткевіча. Не жахлівая прылада для крывавых спраў, а магутны ды высакародны сімвал колішняй сапраўднай незалежнасці. Супрацьстаянне любой навале, якая квапіцца на чужое. Не зброя для заваёўніцкага нападу, а пераканаўчы сродак захавання суверэнітэту... На пачатку лютага споўнілася 162 гады з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага — паэта, публіцыста, палітыка. Бадай, адзінага за апошні час палітыка, слова ў якога не разышлося з канкрэтнай справай. І справа

(Працяг на стар. 15)



**ЧАСАПІС**

## *“Уходя в будущее...”*

**Анатоль Гарай — чалавек на Брэстчыне вядомы. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута настаўнічаў на Палессі, працаваў карэспандэнтам абласной газеты “Заря”, а цяпер старшы рэдактар Брэсцкай студыі тэлебачання. А да ўсяго піша вершы, у якіх часта адштурхоўваецца і ад асабістага жыццёвага вопыту. А нарадзіўся Анатоль Паўлавіч у 1936 годзе ў Гомелі, а ў пагранічным**




**Брэсце з бацькамі апынуўся ў 1939 годзе, калі пачалося вызваленне Заходняй Беларусі. А пасля, як вядома, была вайна, цяжкае пасляваеннае маленства. Пра ўсё гэта можна прачытаць у вершах А. Гарая, якія ён піша і па-беларуску, і па-руску. А адным з першых яго твораў, як сведчыць у прадмове “Сваім следам” да кнігі А. Гарая “Уходя в будущее...”, што пабачыла свет у Брэсце, прафесар Аляксей Майсейчык, стаў верш “Матчын хлеб”, змешчаны ў 1958 годзе ў альманаху “Брэст”. А. Гарай пісаў, згадваючы цяжкасці пасляваеннага жыцця:**

*Ты помніш, ў цяжкую гадзіну —*
*Па дзевяць гадоў нам было —*
*Матуля прыйшла з магазіна*
*І хлеба прынесла кіло.*

**Памяць аб гэтым “хлеба... кіло” засталася на ўсё жыццё:**

*Ды толькі здаецца мне, браце,*
*Нам хлеба не есці смачней,*
*Чым той, што прыносіла маці*
*Для нас, для галодных дзяцей.*

**А потым Гарай друкаваўся ў шматлікіх выданнях. Да ўсяго трэба адзначыць, што ён шмат рабіў (і робіць!) па падтрымцы талентаў. У абласной “Зари” дзякуючы яго нястомнасці выходзіла літаратурная старонка “Зарянка”, а цяпер Анатоль Паўлавіч на тэлебачанні арганізоўвае перадачы, прысвечаныя творчасці пісьменнікаў-землякоў. Ды і неаднойчы выступаў у друку з аглядными артыкуламі. А кніга “Уходя в будущее...” — творчая справаздача аўтара. Яна ўспрымаецца як падагульненне таго, што здзейснена, і адначасова сведчыць, што А. Гарай па-ранейшаму знаходзіцца ў актыўным жыццёвым і мастакоўскім страі. А асэнсоўваючы дзень сённяшні, ён нязменна звяртаецца да ўчарашняга, у мінулым бачыць прыклады, якія варта наследаваць:**

*Когда я думаю о верности,*
*Я вижу первый день войны.*
*Тогда на Буге, в Брестской крепости,*
*Все были, как один верны*
*Земле, где родились и выросли...*

**Зборнік складаецца з трох раздзелаў — вершаў, аб'яднаных па мове іх напісання — “Эхо моих лет” і “Сад мой белы”, а таксама з гумарыстычных твораў — “Мая ўсмешлівая муза”. Дыяпазон вершаў — шырокі. Гэта, як ужо адзначалася, і памяць аб мінулай вайне і пасляваенным маленстве. Звяртаецца А. Гарай і да непаўторных воблікаў тых, хто на ўсе часы застаўся гонарам Беларусі, — Рагнеда, Афанасій Філіповіч, Кастусь Каліноўскі.**

**І, канечне, асобая тэма ў творчасці А. Гарая — тэма Брэста, тэма Брэстчыны. Нездарма ў вершы “Брэст” ён прызнаецца:**

*І калі я па вуліцах крочу,*
*Мне здаецца, нясу праз вякі*
*Не свой лёс, і цяжкі, і сірочы,*
*А мой горад, мой Брэст дарагі.*

**Часам А. Гарай у сваёй творчасці адштурхоўваецца ад фальклорных матываў: “Сад мой белы, Сад духмяны, Сад мой квеценню прыбраны, Кучаравы чарадзей, Што ні год — ты маладзей”. А гумарыстычныя творы — магчымасць пасмяяцца ад душы ад трапнага, дасціпнага слова, якім А. Гарай валодае дасканала. А ў цэлым, як сведчыць А. Майсейчык, А. Гарай — “адзін з сяброў, якія ўладна трымаюць берасцейскае вогнішча ў стане гарэння полымем. Яго кніга напісана з любоўю да роднага краю і яго руплівых і працавітых людзей”.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

НАДЗЁННАЕ

# Паспех — курам на смех

### ПАТРЭБНЫ ГРУНТОЎНЫ АРФАГРАФІЧНЫ ЗВОД

Сёння не з'яўляецца сакрэтам, што на Беларусі суіснуюць дзве правапісныя сістэмы — тарашкевіцкая і падсавецкая. Варта прызнаць, што гэты падзел, у адрозненне, напрыклад, ад нарвежскай ці грэчаскай моў, адбыўся гвалтоўна, дэкрэтным шляхам. На жаль, пра гэта не згадваюць аўтары праекта новай рэдакцыі “Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”, затое яны папярэджваюць, што літаратурнае двухмоўе “ёсць разбурэнне самой літаратурнай мовы і дэзарыентацыя ў сферах яе практычнага ўжывання і пашырэння”. Шкада, што нічога не гаворыцца пра асноўныя матывы, якімі кіраваліся аўтары праекта. Праўда, адзін, бадай, асноўны падыход усё ж нам удалося адшукаць: “У праекце новай рэдакцыі, — зазначаюць яго *складальнікі, — правілы беларускай ар*фаграфіі пададзены ў фармулёўках, што адпавядаюць сучаснаму стану беларускага мовазнаўства” (?!). Адсюль вынікае, што новая рэдакцыя накіравана на кансервацыю таго стану мовы, які склаўся за апошнія гадоў 65 і не ўлічвае разрыву паміж жывой народнай мовай і літаратурнай. Ці не парушэнне гэтых сувязяў прывяло нашу літаратурную мову да анеміі, у стане якой яна апынулася сёння?

Першае, што кідаецца ў вочы, гэта дуалізм правілаў — з аднаго боку, імкненне ўзаконіць тое, што было прапанавана рэформаю 1933г. і замацавана пастановамі СМ БССР ад 11.05.1957. (А вядома, што аўтары апошніх, каб “зрабіць больш лёгкім засваенне правіл... імкнуліся захаваць тэкстуальную блізкасць да “Правил русской орфографии и пунктуации”. З другога — прасочваецца спроба ліквідаваць разнабой і ўнутраныя супярэчнасці сучаснага правапісу. Прычым нярэдка складальнікі супярэчаць самі сабе. Так, на с. 13 яны даводзяць, што вялікая група запазычаных слоў, якія заканчваюцца спалучэннем зычных, апошнія з якіх **[р]**, **[л]**, разрэджваюцца кароткім галосным **[а]**: **міністър, к'эдър, сп'эктакъл**”. У § 23 сцвярджаецца, *што ўстаўныя галосныя паміж* збегам зычных не пішуцца, хоць у вымаўленні і з'яўляюцца: **метр, літр, міністр, гімн, педыятр**. На самай жа справе, такія напісанні не адпавядаюць нормам вымаўлення беларускай мовы і закону складовага сінгарманізму, які дзейнічае з глыбокай старажытнасці. Вядома, што прыкладна з XII ст., пасля знікнення слабых рэдукаваных галосных, калі ў канцы слоў узнік цяжкі для вымаўлення збег зычных, наша мова знайшла выдатны сродак для захавання мілагучнасці і зручнага вымаўлення — устаўныя е, о. Хай паважаны чытач даруе мне, але вымушаны нагадаць класічныя прыклады з гістарычнай граматыкі: **ветръ — ветр — вецер, бобръ — бобр — бабёр, рубль — рубл' — рубель, дернъ — дерн — дзёран, осмь — ос'м — восемь** і г. д. Таму лепш было б сфармуляваць наступныя правілы:

1. *У запазычаных словах з канцавым dr, tr,* як вымаўляецца, так і пішацца — дар, тар: **арбітар, кадар, літар, метар (параўн. народнае літра, метра), цэнтар, цыліндар** і г. д. (Дарэчы, К. Крапіва не здолеў справіцца з гэтым і быў вымушаны ўжыць спецыфічную народную форму: (“У цэнтру самую ўсе пяць загналі зноў”, — дакладвае махальнік Іваноў ваенкому). Думаецца, што напісанні тыпу **літар, метар, Аляксандар** знаходзяцца ў згодзе з агульнамоўнымі традыцыямі і ніколечкі не пярэчаць тэндэнцыі да вызвалення ад шматкансанантных спалучэнняў у канцы слоў. Папраўдзе, у лацінскай мове гэтыя спалучэнні пісаліся з устаўным **[е]** або пасля іх быў яшчэ склад: *arbiter, meter, centrum, filtrum.* Нават у нямецкай аналагічныя словы маюць устаўныя галосныя: *liter, meter, minister, filter, theater.* Узнікае заканамернае пытанне: з якой мовы мы бяром гэтыя за пазычанні?

2. *Канцовыя спалучэнні зычных з апошнімі* **л, м, н, р (акрамя др, тр)** *перадаюцца нязменна:* **акр, верлібр, жанр, спектакль, гімн, тайм, фільм, штурм,** *як спрадвечнабеларускія* **зубр, корм, сойм.**

Чамусьці не выдзелены асобна правапіс іншамоўных спалучэнняў **іе (ые), іё (ыё), ія (ыя)**. Ён раскіданы па розных параграфах. Хаця з гэтым не ўсё зразумела. Так, у § 60 гаворыцца, што ў запазычаных словах, як правіла, збег галосных разрэджваецца ўстаўным **[й]**. А дзе межы гэтага “як правіла”? Як іх вызначыць? Вядома, што **іо (ыо)** пад націскам у сярэдзіне і канцы слоў перадаюцца як **іё (ыё)**, а ненаціскныя як **ія (ыя)**. Аднак “Новая рэдакцыя” захоўвае невымаўляльныя **іон, іанізацыя** замест натуральных **іён, іянізацыя**. На мой погляд, гэтае правіла неабходна дэталізаваць так: *у пазычаных словах у спалучэннях* **іа, іо** пасля **і** *з'яўляецца ўстаўны гук* **[й]**, *таму на пісьме іх (спалучэнні) перадаём напісаннямі* **іе (ые), іё (ыё), ія (ыя)** *у пачатку, канцы і сярэдзіне слоў:* **іён, Іянічнае мора, іянасфера, фіёрд, Ліён, іхтыёл, трыёдзь, дыета, Гліер, аўдыё, трыё, Токіё, Антарыё** *(за выняткам* **Ніоб, эфіоп** *і вытворныя ад іх).*

Што да музычных тэрмінаў, пазычаных з італьянскай, — **адажыо, капрычыо, сальфэджыо** і падобных, то, можа, было б лепш ужываць варыянты, бліжэйшыя да арыгінала **ададжа** *(adagio)*, **капрыча** *(kapricco)*, **сальфэджа** *(solfeggio)*.

У словах з фінальнымі — **ius, ium** у народным вымаўленні пасля **і** таксама з'яўляецца ўстаўны гук **[й]**, і яны гучаць як **ію (ыю)**: **акварыюм, калегіюм, калёквіюм, соцыюм, радыюс, харыюс.** Такія напісанні адначасова знялі б і праблему перадачы **у**.

Неабходна аднастайна перадаваць пачатковыя спалучэнні **й** + галосны ў запазычаннях толькі літарамі **е, ё, і, ю, я: ена** (японская грашовая адзінка), **ешыбот, Емен, Ерусалім, ёга, ёд, Ёрк, Іржы, Ісус, Юда, юдаізм, Ягова, Якагама, Ярданія, Яшкар-Ала,** як даўно асвоеныя **егер, езуіт, яхант, яхта, яфрэйтар, Язэп, ярд**. (Разумею, што гэтая прапанова будзе ўспрынята неадназначна, таму адразу адсылаю сваіх апанентаў да беларускіх народных казак у запісах Е. Раманава, А. Сержпутоўскага і інш. Там знойдзеце і Ярдан, і Ерусалім, і Юда).

Мушу запыніць увагу і на § 47, у якім гаворыцца: *“у запазычаных словах (у тым ліку ва ўласных імёнах) літарай* **й** *пішацца згодна з традыцыяй* (цікава, чыёй ці якой?): **майя, Малайя, Айя, Вайомінг, Майамі, Агайо, Байі, Нью-Йорк, Йожэф, Іагансан, Йемен** *і інш., але* **маёр, маярат, маянэз, сэквоя, фае** *і інш.*”. Я невыпадкова пытаюся пра традыцыю, бо ў “Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” (Мн., 1959) гаворыцца: “*...злучэнне* **йа** *на пісьме перадаецца: 1. Пасля галосных і ў пачатку слова — праз* **я: раяль, плеяда, саквояж, Савоя, Малая, Мая** і г. д.”. Цікава ў гэтым сэнсе спаслацца на ўжыванне шэрагу прыведзеных назоўнікаў у Беларускай энцыклапедыі, дзе знаходзім: індзейцы **мая**, штат **Ваёмінг**, горад **Бая-Марэ** (Румынія). Дзіўна тут тое, што адзін з аўтараў праекта ўваходзіць у склад рэдакцыйнай калегіі, а другі — сябра навуковага рэдакцыйнага савета гэтага аўтарытэтнага выдання.

Для таго, каб уніфікаваць правапіс **ў** (нескладовага) у запазычаных словах, было б дастаткова сфармуляваць правіла так: *у запазычаных словах гук* **[у]** *пераходзіць у* **[ў]**, *калі на яго не падае націск. Націскное* **[у]** *не пераходзіць у* **[ў]**, *напрыклад:* **соўс, страўс, браўнінг, клоўн, маўр, паўза, ва ўніверсітэце,** *з'ява* **ўнікальная, раўнд, рангоўт,** *але:* **выбарная урна, алеут, сапраўдны унікум**.

Гаворачы пра прыстаўныя гукі, нашы мовазнаўцы ад 1933 года чамусьці не заўважаюць, што да запазычаных адносяцца спрадвечна беларускія Орша, Уць, Узда (параўн. вуздэчка), Ула, і адпаведна на рускі ўзор не пішуць прыстаўнога **[в]** у гэтых назвах. Дазволю нагадаць, што гук **о** з'явіўся ў слове **Ворша** прыкладна ў XII ст., калі ў праславянскім **Ръша** выпаў рэдукаваны ъ і стварыўся цяжкі для вымаўлення збег зычных **рш**, то перад ім узнік галосны **о**: (**Рша — Орша — Ворша**). Параўн. аналагічныя з'явы **ръжа — ржа — іржа**; **льва — л'ва — ільва**. А гук **у, ў Вуці** паходзіць з праславянскага **ǫ** (насавога), якое яшчэ ў дапісьмовую эпоху ў беларусаў змянялася на **у**: **Ǫть — Уть — Вуць.** Параўн.: **Ǫзлъ — вузел, Ǫгрь — угрь — вугор** і пад. Незразумела, чаму рускамоўны варыянт слова **охра** і вытворных ад яго раптам набывае значэнне варыянта з натуральным беларускім **вохра, вохрыць, вохраны** і пад. А вось для даўно пазычанай уніі і вытворных ад яе мэтазгодней было б узяць варыянт — “**вунія**”, які нярэдка ўжываецца ў перыядычным друку, навуковых артыкулах. Дарэчы, на с. 5 гаворыцца, што **вунія і унія** існуюць у вымаўленні, *але на с. 28 ужо пра гэта і не* згадваецца.

Нарэшце, неабходна вызваліцца ад традыцыі рускага правапісу ў дачыненні да перадачы мяккага **[з']** у прыстаўках перад наступным **[й]** ды мяккага **[н']** у аналагічных пазіцыях пазычаных слоў, цвёрда сфармуляваўшы правіла: *Раздзяляльны мяккі знак пішацца пасля* **з', л', н', с'** *перад* **е, ё, ю, я: зьезд (з'йэст), зьява (з'йава), разьюшаны (раз"йушаны), іньекцыя (ін'йэкцыя), каньюнктура (кан'йюунктура)** як **Лавуазье, Карбюзье, каньяк, каньён** *і г. д.*

Гэтая прапанова грунтуецца на неадпаведнасці ранейшых напісанняў нормам вымаўлення. Паводле арфаэпічных нормаў нашае

ДРУК

# У жанры літаратурнай публіцыстыкі

За апошнія два дзесяцігоддзі Уладзімір Саламаха выдаў шэраг зборнікаў апавяданняў і аповесцяў. Усе гэтыя гады ён актыўна займаўся таксама публіцыстыкай і літаратурнай крытыкай. Частка лепшага з гэтай галіны творчасці, амаль тры дзесяткі публікацый, увайшла ў кнігу “Званыя і выбраныя”.

Абраны У. Саламахам жанр дае пісьменніку магчымасць выказацца па многіх надзённых пытаннях больш адкрыта і шчыра, чым у мастацкім творы, дзе на чытача ён уздзейнічае, так бы мовіць, праз распрацоўку галоўных і другарадных вобразаў, жыццёвых калізій і сюжэтных ходаў.

Галоўнае месца ў “Званых і выбраных”, на маю думку, займае роздум пісьменніка пра сучасныя літаратурныя і “калялітаратурныя” працэсы на Беларусі, пра творчую і “калятворчую” атмасферу, якая пануе ў Саюзе пісьменнікаў, пра “групаўшчыну” ды шмат што іншае, што перашкаджае ствараць высокамастацкія творы — такія, якія “вярталі б нас да Беларусі”, “збеларушчвалі б” душу народа, абуджалі б цікавасць да сваёй адметнасці ў свеце. Гэтым роздумам аб сённяшнім стане нацыянальнай літаратуры і месцы пісьменніка ў жыцці грамадства прасякнуты галоўныя нарысы кнігі — “Не здару даруецца, таленту — не...” і “У Храме павінна быць светла...”

У. Саламаха ніколі не належаў да тых ці іншых “груповак”, заўсёды заставаўся сам па сабе. Гэта дапамагае яму аб'ектыўна аналізаваць з'явы і падзеі сучаснай беларускай літаратуры, нікому не выказваючы яўнай сімпатыі ці, наадварот, дакораў і папрокаў.

Са шчырым болем ён разважае пра асяроддзе нашых пісьменнікаў, у якім эмацыянальнае напружанне часам дасягае такое ступені, што творцы, якім належала б быць духоўнымі братамі, падзяляюцца на суполкі, якія не маюць дачынення да літаратуры, сварацца і абражаюць адзін аднаго, наўпрост ці праз друк, і бясконца варагуюць. Многім літаратарам здаецца, быццам змагаюцца яны з нейкім вонкавым ворагам, а на самай справе, калі ўважлівей прыгледзецца, атрымліваецца, што пісьменнікі ваююць самі з сабой. Навошта? Дый хіба могуць быць пераможцы ў гэтай барацьбе? У. Саламаха пакідае гэтыя пытанні адкрытымі.

Яго роздум сягае далей таго адмоўнага, чаго хапае, на жаль, у нашай літаратуры. З самой назвы кнігі вынікае, што шмат увагі надаецца добраму, карыснаму і плённаму — здабыткам і талентам беларускага пісьменства.

Па змесце “Званых і выбраных” можна прыблізна акрэсліць кола захапленняў У. Саламахі ў сучаснай беларускай літаратуры. Гэта творчасць празаікаў Уладзіміра Дамашэвіча і Васіля Быкава, Івана Шамякіна і Юры Станкевіча, Віктара Гардзея і Валянціны Кадзетавай, Святланы Алексіевіч і Міколы Купрэева, паэтаў Міколы Антаноўскага і Таццяны Мушынскай, Кастуся Жука і Міколы Мятліцкага, Міколы Маляўкі і Ганада Чарказяна ды іншых. Не забытыя ў кнізе і творцы, якія даўно пайшлі з жыцця — Анатоль Грачанікаў і Міхась Стральцоў. І гэта толькі тыя асобы, творы якіх падрабязна разглядаюцца крытыкам. Акрамя таго, у “Званых і вы-

*Уладзімір Саламаха, “Званыя і выбраныя”. “Бібліятэка часопіса “Маладосць”, 1999г.*

## "Чатыры зярняткі"

Ледзь толькі адкрываеш кнігу казак Анатоля Зэкава "Чатыры зярняткі", выпушчаную выдавецтвам "Юнацтва", як адразу ўпэўніваешся: наперадзе чакае сустрэча са светам маленства, у якім хораша і ўтульна жывецца не толькі дзецям, а і кожнаму, хто не растраціў уласцівасці глядзець на наваколле вачыма адкрытымі, поўнымі даверу і захаплення. А. Зэкаў лёгка знаходзіць адпаведную танальнасць гаворкі з чытачом:

"Дарагія хлопчыкі і дзяўчынкі, прысядзьце на хвілінку і паслухайце, калі ласка, павучанкі-казкі дзядулі Янкі. Дзядуля гэты — з барадой і вусамі. А чаму казкі-павучанкі — зразумееце самі. Бо ў казачцы кожнай ёсць намёк асцярожны. А той намёк — нібыта ўрок. Засвойвайце яго для таго, каб памылак казачных герояў не паўтаралі вы самі ніколі.



Гэтага і жадае вам дзядуля Янка.
*А цяпер слухайце казкі павучанкі...*"

А пераўвасобіўшыся ў дзядулю Янку, А. Зэкаў і расказвае казкі так, нібыта гучаць яны з вуснаў пажылога чалавека, які шмат на сваім вяку пабачыў, з многім сустракаўся. А галоўнае — навучыўся той жыццёвай мудрасці, пра якую ў кнігах не часта прачытаеш, бо ідзе яна ад самога жыцця, на яго праявах мацуецца. Той жа, хто засвоіць паспяхова ўрокі гэтай мудрасці, і сам стане ў нечым мудрэй. І не будзе паўтараць памылак, якія рабілі да яго іншыя.

Цудоўнай атрымалася першая ўжо казка, што і дала назву зборніку. А гаворка ідзе пра клён, які рос у вёсцы. Неяк наляцеў вецер, "абкалаціў яго зярняты. Пападалі яны на дол. А вось чатыры зярняты падхапіў віхор пракляты, закружыў у золкім паветры і панёс за сотні кіламетраў — далёка ад дому, у край невядомы". А ўнізе — рака. Тры зярняткі захацелі ўсё ж дацягнуць да берага, а чацвёртае вырашыла кідацца "ў ваду каламутную". Не хацела дабірацца да берага чужога. Разлічвала, што пашанцуе і яно ўсё ж вернецца дахаты. Так і атрымалася: "...знянацку перад ім выплыў човен рыбацкі. І раптоўна прыліпла зярнятка да чоўна. На чоўне ўдалося да берага дабрацца, а там і да сумкі прыліпнуць рыбацкай. А калі рыбак ішоў каля клёна, яно і адліпла ад сумкі салёнай.

Убачыў клён зярнятка, стаў цалаваць сваё дзіцятка. Побач з таткам і прарасло зярнятка".

Мараль гэтай казкі — відавочная. Зярнятка ўратавалася, а тыя, "што паляцелі на бераг круты", трапілі "ў пясок чужацкі і засохлі". Завяршэнне твора выклікае роздум: "Вось такая сумная развязка выйшла для трох зярнятак. А можа, гэта й не казка, а праўда? Падобнае ж, пэўна, нярэдка магчымым бывае для тых, хто Айчыну сваю забывае".

Анатоль Зэкаў, заінтрыгаваўшы ва ўступе свайго маленькага чытача (кніга ў першую чаргу адрасавана дзецям малодшага школьнага ўзросту) і ў далейшым піша так, што пастаянна "трымае" хлопчыкаў і дзяўчынак гэткімі зацікаўленымі. Дасягаецца гэта не толькі арыгінальнымі сюжэтамі твораў, а і адпаведнай інтанацыяй. Нарэшце, немалаважна, што аўтар "Чатырох зярнятак" ненавязліва дае дзецям і інфармацыю пазнавальнага характару, як, для прыкладу, у казцы "Як на лузе з'явіліся кветкі". І не толькі пра з'яўленне саміх кветак: "Здарылася гэта так даўно, што і сведкаў таму няма, і забылася б, мабыць, яно, каб не казка сама. А казка, яна як завязка, даўно завязалася, ад прадзедаў да дзядоў перадавалася, потым да іх дачок ды сыноў дабралася. Глядзіш, якраз дайшла і да нас".

Увайшлі ў кніжку і казкі "Сарока-манюка", "Вавёрка і Крот", "Як Вожык калючкі набываў", "Лянівая Чарапаха", "Гарбуз і Яблынька", "Як чорная Варона пабялець спрабавала".

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ПАЭЗІЯ

Міхась ПАЗНЯКОЎ



## Бацькоўская хата

*Старая, родная хаціна —*
*Маленства незабыўны кут...*
*Ніхто мне дзверы не адчыніць,*
*Тады каго я клічу тут?..*

*Пчаліным роем — успаміны,*
*Туга пякучая скубе.*
*Заходжу ў змоўклую хаціну*
*І сустракаю сам сябе.*

*Хлапчук,*
*свавольны і спакойны,*
*Абдаў гаючай чысцінёй,*
*Не разумеючы, што сёння*
*Сустрэўся з будучым сабой.*

*А я, усцешаны, прачулы,*
*Сачу за хлопчыкам маўчком*
*І мне з ім хораша ў мінулым,*
*Як з самым лепшым сябруком.*

## У роднай вёсцы

*Састарэлі бабкі,*
*Вымерлі дзяды.*
*Хутка наша вёска*
*Сыдзе на клады.*

*О, бацькоўскі, мілы*
*Найцудоўны кут:*
*Поле. Луг. Магілы...*
*Вольна, гойна тут.*

*Як акінуць вокам —*
*Я разліты ўсцяж.*
*Хоць цяпер навекі*
*Пад бярозы ляж.*

## Сабака Грант

*У вёску глухую*
*З утульнай кватэры*
*Якім цябе ветрам занёс*
*Журботна-шчымлівы,*
*Насмешліва-шэры*
*І прыкры сабачы твой лёс?*
*А продкі твае*
*І не ведалі нават,*
*Што значыць —*
*І голад, і холад, і дождж,*
*Былі ў іх заўсёды*
*Пашана і слава,*
*Канапкі, падушкі*
*І смачны кармёж.*
*Табой пагарджае*
*Вясковая псіна —*
*Не іхняй закваскі,*
*Не грубай крыві.*
*Цябе не прытуліць*
*Пустая хаціна,*
*На дачы казённай*
*Як хочаш жыві.*

●

*Дагарае вогнішча на ўзлеску,*
*Дым віецца смуткам між галін,*
*Падары мне, сонейка, усмешку,*
*У задумным лесе я адзін.*
*Горасны, маркотны, мабыць, самы,*
*Я прыехаў загаіць душу,*
*Бо няма ўжо роднай, любай мамы,*
*І твайго цяпла таму прашу.*
*Тыдзень пад дажджамі я бяду,*
*Згадваю маленства, светлы край.*
*Не заменіш, ведаю, матулю,*
*Дык хаця б крыху паспачувай.*
*І раптоўна хмары расхінула,*
*Асвяціла сонца мой куток,*
*Быццам мама ласкава зірнула*
*І шапнула: "Не бядуй, сынок!"*

●

*Мы развіталіся з табой,*
*Ці гэта падалося?*
*Няўжо нам вечны бой*
*Наканаваны лёсам?*

*Не адпускаеш ты мяне.*
*Згубіць цябе — пакуты.*
*І нам не раз яшчэ вясне*
*Да тайнага прыкутым?*

*Бывай! Дарогі не змяніць,*
*Хоць час нам сэрцы лучыць. —*
*Лепш хай расстанне адбаліць,*
*Чым нерасстанне змучыць.*

●

*Прымоўкнуць сардэчныя струны,*
*Ачахнуць пачуццяў агні...*
*Няўжо буду позіркам сумным*
*Глядзець у наступныя дні.*

*Няўжо і ў няўцямнае скрусе*
*Утопяцца шчасця гады,*
*І я, пацішэлы, змірУся,*
*Што страчу цябе назаўжды?*

---

Ядвіся КВЯТКОЎСКАЯ



Ядвіся Квяткоўская родам з Бабруйска. Жыве ж яна ў Мінску, працуе на мастацкім камбінаце, выкладае выяўленчае мастацтва ў прыватнай гімназіі. Вершы пачала пісаць адносна нядаўна, друкавалася ў часопісе "Маладосць" і ў газеце "Культура".

Лепшымі сваімі "творамі" лічыць сына і дачку. Збірае калекцыю дзіцячай творчасці.

У "ЛіМе" друкуецца ўпершыню.

# Каля вады-крынічкі...

## Чай з лімонам

*Не да чаю, ды яшчэ з лімонам,*
*Пад тэлепрымусам, як прыгонам.*
*Пасяджэнне нейкай асамблеі...*
*Дзеці паміраюць у Гвінеі...*
*Ну й палац! Бязмежны інтэр'ер...*
*Плача хлопчык: дзе яго тэр'ер?*
*А праз краявіды, цуды готыкі*
*Наплывае на экран эротыка...*
*Карнавалы... Маскі і агні...*
*Абгарэлы хлопец у Чачні...*
*"Засвяціўся" хтось на анаболіках...*
*Ад рэкламных моташна*
*мне ролікаў!*
*Член палаты на мяжы "уліп"...*
*Відэараспусты новы кліп...*
*Вось шыкуе модны Лапідус,*
*Пасля моды —*
*зноў пра землятрус.*
*Як світанне — крылы ў фламінга...*
*Кліча ў неба Плачыда Дамінга...*
*Рай аранжарэйны, цуда-кветкі,*
*Зарабляюць долары падлеткі,*
*Кроў на шкле, спецназаўцы*
*з АМОНам...*
*Выключаю! П'ю свой час з лімонам.*

●

*Час выдаўся аблcausны,*
*На радасць — небагаты.*
*Ды на шляху мурожным*
*Спынюся і замру...*
*Зраблю сабе я свята:*
*Да пацерак з агату*
*Сукенку падбяру.*

●

*Ад нясцерпнае спякоты,*
*Неадкладнае работы*
*Так прыемна*
*Патаемна*
*Збегчы ў Батанічны сад.*

*З нябёс у чыстай далячыні*
*Анёл срабрыстымі вачыма*
*Праменні трапна пасылае*
*І спачувальна назірае*
*За стомленай маёй істотай*
*На фоне трапяткой лістоты*
*І дзіўных, экзатычных кветак...*

*А калі б я была паэткай —*
*Адразу напісала б верш*
*Накшталт: "О Божа!*
*Як вакол прыгожа!.."*

●

*"Навошта вершы, мілая дачушка?*
*Не ходзіш ты — лятаеш птушкай.*
*Куды падзенеш тыя вершы?*
*Без іх жылося б шчаслівейша...*

*Ці ж будзе з вершаў нейкі клёк?.."*

*А мне паслухаць — гэта дзіўна:*
*Не ўсё насіць у халадзільнік,*
*Не ўсё складаць у кашалёк.*

## Тэалін

*О таямнічае прадмесце,*
*Тэола, жонка ўладара!*
*Прабачце нашаму нашэсцю:*
*Амаль стаптаная гара...*

*Але ж яе ніхто не зрушыць*
*І там, дзе выпадковы люд,*
*Пульсуюць зорачкамі душы,*
*А хціўцу — неўспадобу тут.*

*Блукаю ў старасвецкім парку...*
*Над палам леташняга смецця*
*Нікім не бачаную арку*
*Вясна узводзіць.*
*З даўгалеццяя.*

## Не забываецца...

Міколу КІРЭЕВУ

*Не забываецца ніколі*
*Мне дзевятнаццаць.*
*Падніколле.*
*А за спіною крылы нібы.*
*І светлыя падумкі-німбы.*
*Успамінаю, як міраж,*
*Той дзіўны восеньскі пейзаж:*
*"Святы Мікола" і Мікола,*
*Мне дзевятнаццаць.*
*Падніколле.*

●

*Яшчэ не выспелі каштаны*
*У стамлёным горадзе Парыжы...*
*Ляцелі пырскі ад фантанаў,*
*І ззяў у іх атэль прэтэсжны.*
*Амур, відаць, быў у гуморы.*
*Дзівак сказаў "memento mori".*
*За шклянкай таннага абсента*
*Мастак, падобны да Вінцэнта,*
*Пакутваў над апошнім творам*
*З найменнем гучным "На Фаворы".*
*А "ню" ягоная Сюзана,*
*З кагорты юных куртызанак,*
*Адпачывала пышным целам*
*І пазірала ў паднябессе,*
*Дзе зорка прывідна трымцела*
*І ўпала за Булонскім лесам.*
*Пасёрбваў каву папарацы.*
*Аб смерці помніў хто наўрад ці...*

## Вяртальная пошта

*Цябе гукала —*
*голас мой ляцеў*
*Да шатаў старасвецкіх дрэў,*
*Разбіўся, знічкамі апаў*
*На росную знямогласць траў.*

*Табе пісала —*
*мой свяціўся твар.*
*Але нядбалы трапіўся паштар:*
*Ішоў марудна. І няўжо*
*Размыты адрас быў дажджом?*

*Змірылася,*
*прымаю лёсу знак:*
*Не вернецца былое аніяк...*
*З'яўляецца з нябеснай нематы*
*Бялюткі голуб, нібы Дух Святы.*

ПРОЗА

Генадзь АЎЛАСЕНКА

# ДВА АПАВЯДАННІ



## Роўна праз год...

Адчайны пранізлівы крык, хуткі тупат босых жаночых ног па паркеце, а потым па прыступках... І вось ужо жанчына — паўапранутая, амаль непрытомная ад жаху — літаральна валіцца на рукі мужчыны, які з кухні кінуўся ёй насустрач.

— Я бачыла яго! Я яго бачыла! — жанчына сутаргава калацілася ў моцных мужчынскіх руках. — Я зноў яго бачыла!

Нарэшце, уткнуўшыся тварам яму ў плячо, яна заплакала — ціха і безнадзейна.

— Ну, супакойся, супакойся... — Абняўшы жанчыну за плечы, мужчына завёў яе на кухню, амаль сілком прымусіў апусціцца на табурэт. — Супакойся!

— Я бачыла яго! — зноў паўтарыла жанчына дрыготкім шэптам — Я яго бачыла!

Мужчына ўздыхнуў, выцягнуў з кішэні цыгарэты, закурыў. Потым паглядзеў на жанчыну, зноў уздыхнуў і, наліўшы ў шклянку вады з-пад крана, падаў ёй:

— На, выпі!

Жанчына не зрэагавала. Тады ён амаль сілком уставіў шклянку ў яе дрыготкія пальцы:

— Выпі, кажу.

Жанчына паслухмяна паднесла шклянку да вуснаў, але пальцы яе задрыжэлі яшчэ мацней, і шклянка, выслізнуўшы з іх, упала на падлогу, дзінькнула і пырсканула ва ўсе бакі шклом і вадою.

— Я не магу больш! — не прамовіла, а прастагнала жанчына. — Я больш не магу!

Яна ўся калацілася, нібыта ў ліхаманцы, на твары, гладкім і прыгожым нават і ў гэтыя хвіліны, не было ні крывінкі, у вачах, вялікіх і на здзіўленне блакітных, стаяў жах.

Мужчына зноў уздыхнуў і заўважыў раптам, што цыгарэта ў ягоных пальцах патухла.

— Слухай, — сказаў ён і амаль са злосцю растрыбушыў недакурак у попельніцы. — Нельга так! Ты ж ведаеш, што гэта немагчыма! А калі табе штосьці здалося...

— Мне не здалося! — прашаптала жанчына трымклівымі вуснамі. — Я на ўласныя вочы бачыла яго! Ён ляжаў у ложку, калі я ўвайшла... Зусім, як тады... Ён і выглядаў гэта жа, як і тады... І ён, — жанчына сутаргава ўздыхнула, — ён глядзеў на мяне!

Яна з жахам і нейкай незразумелай надзеяй узіралася ў твар мужчыны, нібыта чакала ад яго нечага. Але мужчына маўчаў. Маўчаў і круціў у пальцах новую, незапаленую цыгарэту.

— І што было далей? — сказаў ён нарэшце.

— Далей?! — жанчына недаўменна паглядзела на мужчыну. — Я ж кажу: ён глядзеў на мяне! Глядзеў, разумееш?!

Апошнія словы яна амаль што выкрыкнула. І, як спалохаўшыся гэтага свайго крыку, змоўкла.

Мужчына таксама маўчаў. Потым ён уздыхнуў, прыпаліў нарэшце цыгарэту і, зноў наліўшы ў шклянку вады, падаў яе жанчыне:

— Ты ўсё ж выпі!

Жанчына не варухнулася. Тады ён проста паставіў перад ёй шклянку:

— Выпі і супакойся.

— Ён там! — пранізліва закрычала жанчына. — Ён там, разумееш ты гэта? А ты прапануеш мне супакоіцца!

І, гледзячы яму проста ў вочы, яна загаварыла хуткім і ўмольным шэптам:

— Я прашу цябе, я цябе вельмі прашу — пойдзем у міліцыю!

— Што?! — цыгарэта выпала з яго рота, ён хутка падышоў да жанчыны і, моцна ўхапіўшы яе за плечы, павярнуў да сябе. — Куды?!

— У міліцыю! Мы павінны ўсё расказаць ім! — Голас жанчыны зноў амаль сарваўся на крык. — Можа, тады ён нарэшце пакіне нас у спакоі! Можа, пасля гэтага...

— Сціхні! — мужчына знячэўку ўдарыў жанчыну па шчацэ. — Сціхні!

Нейкі час ён моўчкі і недаўменна глядзеў на сваю руку, потым перавёў погляд на жанчыну, зноў паглядзеў на руку. — Даруй!

У вачах жанчыны бліснулі слёзы.

— Не магу больш! — ціха прашаптала яна і раптам зайшлася ў істэрычным бязгучным рыданні. — Не магу больш! Не магу, чуеш, не магу!..

Яна плакала, прыціснуўшы далоні да твару. Плакала доўга, горка і безнадзейна. Слёзы цяклі ў яе між пальцаў, тонкія плечы ўздрыгвалі. І мужчына, які па-ранейшаму стаяў побач, глядзеў чамусьці менавіта на гэтыя худзенькія дрыготкія плечы. Яму было шкада жанчыну, вельмі шкада. Ён разумеў, што яна не прыкідваецца, ёй і сапраўды страшна, невыносна страшна. Толькі ж — колькі ж можна, у рэшце рэшт?!

— Я была сёння ў царкве! — раптам прамовіла жанчына. Яна ўзняла заплаканыя вочы, і позіркі іх сустрэліся. — Сёння якраз гадавіна. І мне захацелася паставіць свечку... Каб ён... Каб яму...

Жанчына змоўкла. Мужчына таксама маўчаў, і яны па-ранейшаму глядзелі адно аднаму ў вочы.

— Яна патухла!

Мужчына варухнуўся.

— Ну і што? — сказаў ён і перасмыкнуў плячамі. — Што ж такога? Трэба было запаліць яшчэ раз. — Нечакана сярдзіта дадаў: — Альбо зусім не ісці туды!

— Ты не разумееш... — Жанчына гаварыла ліхаманкава-трывожным, амаль што вар'яцкім шэптам. — Яна не проста патухла. Яе быццам хтосьці спецыяльна задзьмуў! Але побач нікога не было, я стаяла адна. І я хацела запаліць яе зноў, але... Разумееш, я адчула, я амаль фізічна адчула нечую прысутнасць. Хтосьці нябачны стаяў побач са мной... І я гэтак спалохалася, што проста выбегла адтуль...

І яна зноў заплакала.

— Паслухай! — сказаў мужчына мяккім, супакойлівым голасам і зноў павярнуўся да жанчыны. — Мінуў год. Разумееш, мінуў ужо год. І ўсе, і міліцыя ў тым ліку, паверылі, што гэта было самагубства. Усё адбылося так, як мы і планавалі... — Голас ягоны гучаў з кожнай фразай усё больш раздражнёна. — І вось цяпер, калі ўсё самае непрыемнае і складанае засталося ў мінулым, ты з-за сваіх хваравітых і недарэчных фантазій...

Мужчына змоўк.

— Гэта не фантазіі! — зноў зашаптала жанчына — амаль бязгучна, аднымі вуснамі. — Ён праўда быў там, у спальні. Ён і цяпер там... Ён спецыяльна прыйшоў сёння, у гадавіну сваёй смерці. Прыйшоў, каб... А можа... — Яна раптам моцна ўхапіла мужчыну за руку. — Можа, гэта і праўда толькі мае фантазіі? Можа, я звар'яцела? Ну чаго ты маўчыш?

— Ну што ты, любая, што ты! — мужчына асцярожна вызваліў руку і даволі няўклюдна чмокнуў жанчыну ў скронь. — Ты проста перахвалявалася, толькі і ўсяго...

— Праўда?

— Праўда!

Жанчына плакала, уткнуўшыся мокрым тварам у плячо мужчыны, а ён, моцна абняўшы яе левай рукой, правай асцярожна гладзіў узлахмачаныя валасы жанчыны і адначасова шаптаў ёй на вуха штосьці супакойнае. І было ціха, вельмі ціха на кухні. І толькі ціканне гадзінніка на сцяне крыху парушала гэтую цішыню. Маленькая стрэлка гадзінніка, дарэчы, ужо амаль падабралася да лічбы дванаццаць, а вялікая стрэлка вось-вось павінна была дагнаць маленькую...

## Ты сама выбрала свой лёс

Увайшоўшы ў пакой, ён спыніўся. Яму раптам здалося, што ўсе госці павярнулі галовы ў ягоны бок.

Але гэта яму толькі здалося. Ніхто нават і ўвагі не звярнуў на тое, што на аднаго чалавека ў пакоі стала раптам больш.

Стараючыся быць непрыкметным, ён падышоў да акна і, прыхінуўшыся да падваконня, пачаў павольна і ўважліва разглядаць прысутных...

Галоўнае — не спяшацца! Мінулы раз ён ледзь усё не сапсаваў празмернай сваёй таропкасцю. Але і марудзіць таксама не след, бо час, такі каштоўны і такі неабходны яму зараз, ідзе. І ідзе вельмі і вельмі хутка.

Ён зірнуў на гадзіннік на сцяне насупраць і крыху супакоіўся — часу яшчэ хапала. Толькі вось — каго выбраць?

Усяго ў пакоі было каля дваццаці чалавек, але мужчын ён адразу ж адкінуў. З імі заўсёды шмат важданіны, ды, шчыра кажучы, яму не падабаліся мужчыны. З жанчынамі прасцей ва ўсіх адносінах.

А іх у пакоі было роўна трынаццаць, чортаў тузін. І з гэтых трынаццаці ён павінен выбраць сёння адну. Адну з трынаццаці...

Яго заўсёды чамусьці вельмі хваляваў гэты момант — момант выбару. Вось яны ўсе тут, перад ім. І кожная — са сваімі думкамі, сваімі праблемамі, сваімі надзеямі і спадзяваннямі. Кожная са сваім уласным асабістым жыццём. І ўсе яны і не падазраюць нават, што вось тут, зусім побач, стаіць іх лёс. І нічога ўжо ад іх не залежыць. Толькі ад яго аднаго залежыць, чый лёс зменіцца ўжо сёння, раптоўна і адразу...

Трох, самых старых, тоўстых і непрыгожых, ён адбракаваў адразу. Потым, пасля нядоўгіх ваганняў, выкрасліў яшчэ чацвярых — гэтыя былі ці то з мужыкамі, ці то з сябрамі, якія так шчыльна апякалі дам свайго сэрца, так раўніва кідалі навокал пагрозлівыя позіркі, што было відавочна: гэтым чатыром нечаканае змяненне лёсу не пагражае. Прынамсі, сёння.

Заставалася яшчэ шэсць жанчын. Якую ж выбраць?

— Вы дазволіце?

Захоплены сваімі думкамі, ён і не заўважыў, як яна падышла да акна, гэтая жанчына. Гэта была адна з тых, каго ён пакінуў у спісе кандыдатак. Маладая, зусім яшчэ дзяўчо, даволі прыгожая, апранутая сціпла, але з густам.

— Вы не супраць, калі я крыху пастаю тут, побач з вамі?

Ён усміхнуўся:

— Калі ласка! Пастаяць, пасядзець, паляжаць — з вамі я на ўсё згодны.

— Вось як!

Яна дастала з сумачкі пачаты пачак цыгарэт, закурыла, прапанавала яму.

— Дзякую! — ён зноў усміхнуўся. — Не куру.

Дзяўчына, схаваўшы цыгарэты, моцна і глыбока зацягнулася, пасля павольна, не спяшаючыся, выпусціла дым праз ноздры.

“Лепш было б, калі б яна не курыла, — міжволі падумалася яму. — І што за смак яны знаходзяць у гэтым занятку? А ў рэшце рэшт, якая розніца?”

Дзяўчына яшчэ раз глыбока зацягнулася.

— Чаму вы на мяне так гледзіце?

— Як? — ён зноў усміхнуўся. — Як гляджу?

— Ну... — Дзяўчына таксама ўсміхнулася, нетаропка збіла пазногцем з цыгарэты попел проста на падлогу і дадала: — Дзіўна нейк... Мне нават не па сабе крыху. Гэта што, з-за таго, што я сама падышла да вас? З-за гэтага?

Ён, працягваючы моўчкі ўсміхацца, асцярожна ўзяў у яе з рукі недакурак, выкінуў яго ў адчыненую фортку.

— Вы падышлі да мяне толькі таму, што я вельмі жадаў гэтага. І наогул, я...

У гэты час у пакоі загучала музыка.

— І наогул, я запрашаю вас на танец. Гэта вальс?

Яна кіўнула.

— Вы не супраць?

Дзяўчына зноў кіўнула і сама ўзяла яго за руку. Праўда, адразу ж выпусціла яе:

— У вас такія халодныя рукі. Нават не халодныя, а...

Яна змоўкла.

— Ледзяныя? — падказаў ён і зноў усміхнуўся. — Вы гэта хацелі сказаць?

— Не зусім, — дзяўчына таропка зірнула на яго і зноў адвяла позірк. — Вам, напэўна, холадна?

— Холадна? — ён паціснуў плячыма. — Не! Ужо не...

Яна зноў і ўжо больш уважліва паглядзела на яго. “Гэта кепска. Трэба зараз жа, неадкладна пераключыць яе ўвагу на нешта іншае”, — падумаў ён.

— Халодныя рукі — гарачае сэрца! — сказаў ён і, прыабняўшы дзяўчыну за талію, дадаў: — Пойдзем танцаваць...

— Вы добра танцуеце, — сказала дзяўчына, калі танец скончыўся і яны зноў стаялі каля таго ж самага цёмнага акна. — Скажыце, а вы сваяк гаспадарам ці проста знаёмы?

— Проста знаёмы. — Ён зноў паглядзеў на гадзіннік насупраць. — А вы?

— Я таксама! — дзяўчына ўсміхнулася і дадала: — Я тут наогул амаль нікога не ведаю.

“Гэта добра! — падумалася яму. — Гэта вельмі добра!”

— І ведаеце, вы першы, з кім я загаварыла сёння...

— Гэта, напэўна, лёс... — сказаў ён.

— Вы верыце ў лёс?

— Веру! — сур'ёзна, нават занадта сур'ёзна адказала дзяўчына. — А вы?

— І я! — ён усміхнуўся і дадаў: — Гэта, наогул, адзінае, у што я веру.

Зноў загучала музыка, і яны зноў пайшлі танцаваць.

Дзяўчына прыціскалася да яго, яе дыханне было гарачае, нясцерпна, невыносна гарачае, але даводзілася цярпець. Хутка, ужо хутка...

“Ты сама выбрала свой лёс, дурніца! — з нечаканым жалем падумалася яму. — Сама выбрала свой лёс! Я цябе не выбіраў. Я мог і наогул не заўважыць цябе. Вас было шасцёра, але ты сама выбрала свой лёс...”

— А вы чулі, — раптам прашаптала дзяўчына, горача дыхаючы яму ў самае вуха, — чулі пра гэтыя жудасныя забойствы? Чулі?

— Забойствы? — ён уважліва паглядзеў на яе, паціснуў плячыма. — Якія забойствы?

— Вы й праўда не чулі?

— Праўда.

— Не можа быць! — у голасе дзяўчыны гучаў яўны недавер. — Аб гэтым жа ўсе ведаюць!

— А вось я не ведаю! — ён крыху памаўчаў і дадаў: — Я прыехаў здалёк і толькі сёння... А што за забойствы?

У вачах у дзяўчыны штосьці мільганула. Магчыма, жах, а, магчыма, і яшчэ нешта...

— Іх знаходзяць мёртвымі! — ледзь чутна прашаптала яна. — З пракусанымі шыямі... Без адзінай кроплі крыві... Уяўляеце — без адзінай кроплі!

— Уяўляю!

Цяпер ён глядзеў на шыю дзяўчыны, тонкую і на здзіўленне безабаронную. Глядзеў доўга. Потым перавёў погляд на гадзіннік на сцяне. І зноў утаропіўся паглядам у гэтую тонкую, пяшчотную, безабаронную шыю...

## Без яго было б сумна

**Уладзіміру Аляксеевічу Шаліхіну спаўняецца 70. Амаль паўстагоддзя ён вядзе канцэрты ў сталічнай філармоніі. І не проста аб'яўляе нумары праграмы. Коратка і шчыра расказвае пра аўтара музыкі, яго творы і, вядома ж, пра выканаўцу. Расказвае далікатна, часам з гумарам. Заўсёды прыцягваюць яго абаяльнасць, цеплыня, мяккаць, сардэчнасць, любоў да музыкі, музыкантаў і да нас, слухачоў. Многія прыхільнікі музычнага мастацтва міжволі зрабіліся прыхільнікамі яго асобы. Заўсёды, як толькі на сцэну выходзіць гэты зграбны, маладжавы чалавек, яго сустракаюць апладысментамі.**

**Ён мае энцыклапедычныя веды (і дзве адукацыі — піяніста і вакаліста). І ўсё, за што ні бярэцца Уладзімір Шаліхін, ён робіць захоплена. Частку свайго таленту ўкладае ў напісанне рэцэнзій, артыкулаў пра вядомых і малавядомых, маладых і сталых музыкантаў.**

**Дарэчы, неўзабаве зацікаўленыя чытачы змогуць пазнаёміцца з кнігай У. Шаліхіна пра яго сустрэчы з вялікімі артыстамі "Сэрца памятае", дзе адных толькі фотаздымкаў — 460.**

**Яго імя як дыктара і вядучага добра знаёмае некальким пакаленням, дзякуючы перадачам Беларускага тэлебачання, нашага нацыянальнага радыё. А цяпер чакаем кнігу...**

**Вера КРОЗ**

## Паміж рэальным і абстрактным



**Мастак-графік Міхась Барздыка вылучаецца са знанага мастацкага асяродка. Тое, што ён цікавы і прафесійны майстра, не выклікае сумневу. Выпускнік архітэктурнага факультэта Беларускага політэхнічнага і Маскоўскага паліграфічнага інстытутаў, ён кінуў выкладчыцкую працу дзеля творчасці. Яго графічныя лісты, кніжныя ілюстрацыі былі адзначаны сярэбраным медалём Еўрапейскай Акадэміі мастацтваў на 22-м міжнародным салоне графікі ў Бельгіі, залатым медалём на міжнародным конкурсе графікі ў Валоніі (Бельгія). Дый, зрэшты, тое, што работы М. Барздыкі знаходзяцца ў Музеі сучаснага мастацтва "Шамальер" (Францыя), гаворыць само за сябе. Сябры распавядаюць, што мастак знішчае**



**формы літаральна пасля першых адбіткаў. І гэта — не гульня, Міхась адносіцца да сваіх графічных лістоў як да неціражаваных, рукатворных. Таму і на яго акватынты, і афорты (любімая тэхніка мастака) глядзіш не як на тыповыя, іх не аднясеш ні да чыстых абстракцый, ні да адлюстравання рэальных формаў. Апісаць творы М. Барздыкі немагчыма, як і паўтарыць. Чорна-белы колер яго твораў настолькі самадастатковы, што апошнія работы, дзе мастак актыўна пачаў уводзіць шматколернасць, здаюцца залішне перагрувашчанымі.**

**Міхась Барздыка па жыцці застаецца аптымістам. Ён працуе ў кватэры, дасюль не мае сваёй майстэрні, хаця з 1990 года з'яўляецца сябрам Саюза мастакоў Беларусі.**

**Н. Ш.**

*На здымках: мастак М. БАРЗДЫКА; "Метамарфозы".*

ТВОРЦА

# "Сапраўдны жывапіс — элітарны"

***Жывапісца-каларыста Алега МАЦІЕВІЧА я ведаю з таго часу, калі ён знаёміў мяне са сваім першым дыпломнікам на кафедры жывапісу Беларускай акадэміі мастацтваў. Дарэчы, гэта быў і мой дэбют у БелАМ у якасці рэцэнзента і таму, відаць, мы хутка знайшлі агульную мову з Алегам, а пазней гэта знаёмства стала проста адной з прыязных старонак маёй працы. Яго майстэрня пад дахам дома на Нямізе, адкуль адкрываецца неабсяжны гарадскі краявід, але куды трэба дабірацца праз складаныя лесвічныя пераходы і куды мастак дапускае далёка не кожнага. І яго пуня ў Астрашыцкім Гарадку, дзе мастак "лунае" над зямным і дзе сабрана большасць яго твораў. Сам ён часта прызнаецца, што развітваецца са сваімі карцінамі з цяжкасцю. Не любіць прадаваць, хоць і ведае, што яго каларыстычныя вышукі ў большасці — некамерцыйнае мастацтва. За час выкладання ў БелАМ, прыдбаў не аднаго вучня, сябра і паплечніка ў ідэях каларызму і жывапіснасці. І галоўнае, адчуваючы нямоднасць свайго стылю, ён тым не менш штодзень становіцца да мальберта, застаецца верным сабе.***

***Не так даўно Алегу Маціевічу споўнілася 50 год. З гэтай нагоды ў Нацыянальнай мастацкай галерэі адбылася яго персанальная выстава.***



**— На выставе побач з новымі віселі і твае студэнцкія работы — "Містэрыя вульгарэс", "Сухія кветкі". Як ты сам мяркуеш, ці моцна ты змяніўся за гэты час?**

— Магу сказаць, што не ў лепшы бок. Мне сябры нават кажуць: Маціевіч, табе не варта было вучыцца.

Калі сур'ёзна, на выставе я паказаў некалькі студэнцкіх работ. Вучыўся ж я на манументальным аддзяленні БДТМІ, і станковы жывапіс мяне асабліва не вабіў да 3 курса. З задавальненнем займаўся вітражамі, але не адчуваў, каб душа мая там па-сапраўднаму "раскрывалася".

**— Магчыма, усё ж манументальнае аддзяленне ў тыя гады было больш свабодным і адкрытым для эксперыментавання, чым станковы жывапіс, уціснуты ў рамкі тэматыкі і пэўнага стылю?**

— Так атрымалася, што іспыты я ўвогуле здаваў на "тканіны", пайсці куды мяне "падбіў" Аляксандр Кішчанка, з якім я сябраваў і дапамагаў рабіць эскізы да яго першых габеленаў. На той час былі знанымі літоўскія і чэшскія габелены. Там дазвалялася прасторавасць, фармальнасць.

Ужо на іспытах на мяне закрыўдаваў Г. Вашчанка, у якога яшчэ падчас вучобы ў мастацкай вучэльні я займаўся год і да якога, на манументальнае аддзяленне, найперш збіраўся паступаць. А мой малюнак гарбаносага дзядзькі на ўступных экзаменах П. Крохалеў згадваў мне не адзін год... Урэшце мяне ўгаварылі, і я адзін з першых быў залічаны на манументальнае аддзяленне.

**— І гэта не перашкодзіла табе стаць сапраўдным станковым жывапісцам...**

— На той час я зрабіў правільны выбар, бо сапраўднай вольнасці і мастацтва было больш у Вашчанкі, Кішчанкі, Данцыга, Шаранговіча, чым на аддзяленні станковага жывапісу. Тым больш Вашчанка не забараняў мне займацца жывапісам. Мае манументальныя эскізы былі жывапіснымі, фрэскавымі, але ў той жа час прасторавымі і таму атрымлівалі добрыя адзнакі. І ўсё ж Вашчанка казаў студэнтам, каб яны на Маціевіча не арыентаваліся. Мяне вабіла напісаць сапраўднае неба, зямлю, дрэва, ускладняць малюнак каляровымі вышукамі, але не ісці шляхам манументальнага спрошчвання.

У інстытуце я дзяліў майстэрню з чатырма аднакурснікамі, якім палотнаў пісаць не трэба было. Палова ж маіх эскізаў былі станковымі працамі. Вашчанка часам не вельмі разумеў, што гэта я раблю, калі трэба працаваць над дыпломам, а я аўтапартрэт пішу... Аўтапартрэт тады і стаў маім сапраўдным дыпломам.

**— Але твой дыплом быў жывапісным. Там "нарадзіўся" сённяшні каларыст Маціевіч?**

— Я выставіўся з шэрагам станковых прац, некаторыя былі закуплены музеем. Некаторыя захоўваю на памяць. Але адназначна гэта быў не "прасавецкі" жывапіс. Магчыма, таму я адразу пасля інстытута не ўступіў у Саюз мастакоў, як зрабілі большасць маіх аднагодкаў.

**— Калі ты сябе адчуў мастаком?**

— Павел Кузняцоў на пытанне, калі ён адчуў сябе мастаком, адказаў: калі адкрыў сваю прастору. Я сваю прастору бачу праз фарбы і алоўкі. Я жыву ў мастацтве, мне падабаецца гуляць з класічнымі схемамі, падрабляючы іх пад сябе, напрыклад, знакаміты ван-гогаўскі аўтапартрэт з люлькай. Нават сваю летнюю майстэрню ў Астрашыцкім Гарадку — вясковую пуньку — я адчуваю храмам. Там для мяне Рэмбрант лётае, там я малюю, п'ю гарбату і смалю люльку.

**— Адкуль жа ўзялася такая ўпэўненасць, што шлях у мастацтве ты выбраў правільны, хоць асаблівых званняў і ўзнагарод за сваё жыццё не атрымаў?**

— Упэўненасць мая ад прасезанаўскага, праасьмёркінскага Натана Воранава, ад Аляксандра Кішчанкі з яго раннімі спробамі аля-Лежэ, ад моцнай мастацкай культуры Гаўрыілы Вашчанкі. Я дасюль захапляюся ягоным палатном "Маё Палессе". Мне ўвогуле пашчасціла. Год вучыўся ў Каўнасе, дзе мяне ў нейкім плане "разбэсцілі" фармалізаваны нават тады літоўскі жывапіс. Пасля ў Мінску У. Стальмашонак пазнаёміў мяне з маскоўскім мэтрам жывапісу Мікалаем Андронавым, якому мае першыя жывапісныя крокі спадабаліся і з якім я пасля доўга сябраваў, хоць мяне і не вабіў яго "суровы стыль". Я захапляўся каларыстамі 20—30-х гадоў — Семашкевічам, Філіповічам, Станютай. І моцным штуршком для мяне было сяброўства з Альгердам Малішэўскім. На жаль, ён ніколі не выкладаў мне ў вучэльні,

МЕРКАВАННЕ

# Балет — феномен

***Апошнім часам пра балетнае мастацтва пачалі пісаць не толькі непасрэдныя спецыялісты ў харэаграфіі і ўсюдысныя журналісты, яно пачало прыцягваць увагу сур'ёзнай музыказнаўчай навукі. Адна за адной з'яўляюцца работы, прысвечаныя самым розным праблемам яго гісторыі і тэорыі. Але музыказнаўцам, якія прывыклі абапірацца на дакладныя нотныя запісы, моцна перашкаджае незафіксаванасць харэаграфіі — яна не мае ні нот, як музыка, ні слоўнага тэксту, як драма.***

Балетны спектакль жыве на працягу некалькіх гадзін, нараджаецца і паміраe ў адзін і той жа вечар. У другі раз ён можа быць ужо іншым. Ды і як можна аналізаваць тое, што цячэ і змяняецца, быццам вада ў руцэ, адлятае ад подыху ветру, бывае такім жа няўлоўным, як выраз твару дзіцяці! Харэазнаўцы стараюцца, вядома, трэніруюць сваю памяць, карыстаюцца падказкамі відэатэхнікі, якая імкнецца занатаваць на стужцы самыя прыкметныя з'явы балету. Але паколькі вынікі і дасягненні ў балетным мастацтве не фіксуюцца матэрыяльна, іх нельга вымераць у метрах, кілаграмах альбо секундах, ацэнка іх утрымлівае ў сабе досыць шмат суб'ектыўных уражанняў і залежыць часам не столькі ад таго, што заключана ў самой харэаграфіі, колькі ад густу крытыка і ад таго, які тэзаўрус, г. зн. запас інфармацыі ў гэтай сферы, у яго ёсць.

Не здзіўляе, што балетазнаўцы нярэдка разыходзяцца ў ацэнках спектакляў, спрачаюцца і абвяргаюць адзін аднаго. Да сур'ёзных сутыкненняў справа не даходзіць, можа, толькі таму, што балетазнаўцаў-прафесіяналаў, людзей, якія атрымалі спецыяльную харэаграфічную адукацыю, надзвычай мала. Пасля заканчэння вучылішча пагалоўная большасць выпускнікоў ідзе ў выканаўцы (тэатры і танцавальныя калектывы ў краіне і за яе межамі паглынаюць амаль усіх), і мала хто з іх атрымлівае вышэйшую адукацыю. Такім чынам, балетазнаўцы саступаюць музыказнаўцам не толькі ў якасным абгрунтаванні сваёй навукі (немагчыма, як ужо гаварылася вышэй, спыніць імгненне на час, неабходны для аналізу), але і ў колькасных адносінах. Таму натуральна, што балетазнаўцы аддаюць перавагу выступленню ў лёгкім жанры — мабільнай крытыцы, а музыказнаўцы, якія знаходзяць стабілізуючую апору ў балетнай музыцы, займаюцца пераважна даследаваннямі ў сферы гісторыі і тэорыі. Такога кшталту і манаграфія К. Дулавай **"Балетны жанр як музычны феномен"**, што нядаўна пабачыла свет.

Яе аўтар, дацэнт Беларускай акадэміі музыкі і раней пісала пра балет: дзесяць гадоў таму яна абараніла кандыдацкую дысертацыю па музыцы "Спячай прыгажуні" П. Чайкоўскага. У новай працы яна значна пашырае межы тэмы і разглядае велізарны перыяд у развіцці рускага балетнага тэатра — ад канца 18 стагоддзя да пачатку 20-га. У архівах Масквы і Санкт-Пецярбурга К. Дулава знайшла больш за 400 ніколі не публікаваных раней балетных партытур, якія захоўваюцца ў рукапісах. Сярод іх аўтараў — не толькі вядомыя ўсім Л. Мінкус, Ц. Пуні, Р. Дрыго, але і многія іншыя рускія і заходнія кампазітары, балеты якіх былі надоўга забытыя.

Упершыню зроблены К. Дулавай усебаковы аналіз гэтай балетнай музыкі пралівае новае святло на стылістыку харэаграфічнага тэатра цэлай эпохі, дадае шмат свежых фарбаў у карціну тагачаснага мастацкага жыцця. Бо магчымасць пачуць некалькі сцэн з балета, скажам, С. Цітова "Новы Вертэр" (а ў манаграфіі прыводзяцца ўрыўкі з музыкі многіх балетаў таго часу) дазволіць балетазнаўцам, якія ведаюць сёе-тое пра яго харэаграфію, у думках нібыта ўбачыць спектакль, што быў незвычайнай і яркай падзеяй у 1799 годзе. Хаця, вядома, гэтае ўяўленне пра харэаграфію, зноў жа, у адрозненне ад музыкі, будзе толькі прыблізнае. Можна проста пазайздросціць музыказнаўцам, якія маюць такую натаграфію, што дазваляе з дакументальнай дакладнасцю ўзнавіць найважнейшую частку балетнага спектакля. І, безумоўна, мае рацыю вядомы музыказнавец, прафесар Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі В. Холапава: яна напісала ў прадмове да выдання, што кніга азначае, па сутнасці, культурнае адкрыццё, якое адыграе вялікую

якую я скончыў разам з М. Селешчуком, Р. Сіплевіч, В. Мартынчыкам, Ісаёнкамі. Блізка сябраваў з А. Кішчанкам. І калі той клікаў мяне на дапамогу ці на работу над яго габеленамі, я мог нават не пайсці на спатканне з дзяўчынай.

Я лічу, што для ўсіх іх я быў добрым вучнем, з якога паступова стаў атрымлівацца добры мястэчковы жывапісец. Мястэчка, праўда, называецца Мінск...

**— Твае працы своеасаблівыя. Іх так проста не разгледзіш без пэўнага асвятлення. Не ў кожнай экспазіцыі яны зайграюць.**

— Яны не глядзеліся нават на маёй персанальнай выставе, бо наш Палац мастацтваў эканоміў асвятленне. Але я лічу, у любой экспазіцыі, інтэр'еры яны будуць "сядзець" як каларыстычная пляма, чырвоная, карычневая, зялёная.

Зусім нядаўна я прыйшоў да поліфанічнай гамы, яна не аднастайна цёмная і не аднастайна светлая. Бо як іначай, калі не светлымі фарбамі, я магу напісаць жанчыну альбо дзіця. Я толькі супраць кідкай яркасці. Беларусі не ўласцівы фавізм, хутчэй — прыглушаныя таны.

**— Ты займаешся нямодным жывапісам. Цябе гэта не хвалюе?**

— Сапраўдны жывапіс — заўжды элітарны. Хоць пэўны час я наіўна думаў, што працую для народа і мая глядачка — вясковая жанчына. Яна заўжды не пройдзе міма, калі я стаю з эцюднікам на ўскрайку сяла, ніколі не зганьбіць маё пісьмо, нават калі не зразумее. Магчыма, таму я не рабіў персанальных выстаў, бо прызвычаіўся, што мае гледачы мае работы пагледзелі ўжо на месцы. Ды адзнака простых людзей бывае вышэй за адзнаку прафесіяналаў, закамплексаваных на акадэмізме і накірунках, асабліва калі не ўваходзіш у пералік "сваіх".



У пэўны час мы засталіся толькі ўдваіх з Малішэўскім зацятымі каларыстамі. Сябравалі. Хацелі разам выйсці з мастакоўскага аб'яднання "Няміга". На жаль, Малішэўскі памёр. І я выйшаў адзін, таму што я чалавек не меркантыльны і купля-продаж карцін мяне не цікавіць, а спрэчак на гэтую тэму ўвогуле не люблю. Мною нельга кіраваць, незалежнасць я атрымаў з дзяцінства. Я магу выслухаць добрую параду, якую мог зрабіць Малішэўскі, Вашчанка, Марачкін, людзі добразычлівыя, высокадухоўныя. Барацьба ж за цёплае месца не для мяне.

**— Ведаю, што на першапачатку работы сяброў "Нямігі" нават блыталі. Але пасля многія з аб'яднання пайшлі сваімі шляхамі...**

— Таму мой выхад з аб'яднання быў натуральны. Хоць я пэўны час з імі актыўна выстаўляўся.

Пасля я займеў ахвоту сабраць сваё кола аднадумцаў са студэнтаў. І цяпер я маю з дзесятак вучняў, якія б з задавальненнем зрабілі сумесную выставу. Але накірунак беларускага каларызму не атрымаўся. Не ідуць маладыя гэтым шляхам, ён і цяжкі, і нямодны, і няпрадажны, гэта шлях мастакоў 60—70-х гадоў — самаахвяравання і адмаўлення ад бытавога камфорту. Зусім натуральным выглядала, калі вядомы маскоўскі жывапісец-шасцідзесятнік Вэйсберг дазваляў сабе з'явіцца на адкрыццё выставы ў зэкаўскім ватніку без гузікаў. Андронаў прыходзіў у шапцы і кажусе, што выдавалі фабзайцам. Ніканаў у сціплым швэдары.

А сам я заўжды выглядаў "піжончыкам". Люблю і абцасікам тупнуць, хаця на вёсцы не цураюся і звычайных кірзачоў.

**— Чаму ты апошнім часам носіш цёмныя акуляры?**

— Летам я за імі хаваюся ад сонца, калі пішу акварэллю. З іх дапамогай назіраю за людзьмі. Я часта мяняю колер акуляраў: руды, зялёны, чырванаваты, праз іх я гляджу на свет як каларыст...

**Гутарыла Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*На здымках: мастак Алег МАЦІЕВІЧ; "Юля"; "Нацюрморт з кветкамі".*



...злю не толькі ў музыказнаўстве, але і ў ...алетазнаўстве, тэатразнаўстве розных краін.

Яшчэ адной працай, прысвечанай балету, сталася кандыдацкая дысертацыя В. Гудзей-Каштальян, паспяхова абароненая ў канцы мінулага года ў Беларускай акадэміі музыкі. Аўтар-музыказнавец разглядае праблему жанравай дыферэнцыяцыі балетных спектакляў і робіць многае для таго, каб у гэтай сферы, па магчымасці, усталяваўся парадак. Яна аргументавана даводзіць, што балет прайшоў тры асноўныя этапы развіцця, сфармаваўшы тры агульныя тыпы структуры: протаканон, канон і постканон. Даследуючы іх, В. Гудзей-Каштальян выяўляе абсалютна дзівосную для музыказнаўцы эрудыцыю ў чыста харэаграфічных праблемах і ў балетнай літаратуры. У яе працы шмат тонкіх назіранняў, слушных заўваг.

Асабліва спадабаўся мне раздзел, дзе абгрунтавана існаванне ў балеце структуры раманнага тыпу, пра што яшчэ не гаварылася ў балетазнаўстве. Сапраўды, па ахопе падзей, па глыбіні спасціжэння шматграннай рэчаіснасці балет узняўся цяпер да вышыняў, узятых да таго, пэўна, толькі літаратурай. З адным усё ж не магу пагадзіцца: калі музыказнаўцы лічаць асноўным аўтарам балета кампазітара. Дзякуючы іх распаўсюджанаму меркаванню і намаганням такое ўяўленне замацавалася ў мастацтвазнаўчай літаратуры, у той час як больш правільна і слушна было б лічыць аўтарам балета і харэографа. Гэтага варта было б прытрымлівацца і пры напісанні самых розных тэкстаў, нават афіш: аўтарамі балета "Страсці", напрыклад, з'яўляюцца, безумоўна, А. Мдзівані і В. Елізар'еў, а не адзін кампазітар Мдзівані. Акадэмічная рэдакцыя "Спячай прыгажуні" належыць у роўнай ступені П. Чайкоўскаму і М. Пеціпа.

Апошнім часам, дарэчы, у практыцы з'явілася і сцвердзілася такая з'ява, як балеты М. Бежара і Б. Эйфмана, дзе дэміургам спектакля з'яўляецца харэограф. Менавіта ён вызначае канцэпцыю сцэнічнага твора, стылістыку і выбар музыкі. Ужо не кажучы пра асноўны "тэкст" балета — харэаграфію. Увогуле, у вырашэнні мастацкіх праблем спектакля "Шалі вагаў" цяпер нярэдка схіляюцца на карысць харэографа. Бо менавіта ён у адпаведнасці з уласнай задумай адбірае ўжо напісаную музыку. Больш далікатная сітуацыя, калі балет ствараецца адначасова абодвума аўтарамі — кампазітарам і харэографам. Але калі ўлічыць, што першапачатковая ідэя і сцэнарый, паводле якога пішацца музыка, сёння часцей за ўсё належыць харэографу, то, відавочна, не варта сумнявацца ў яго праве на аўтарства спектакля. Самі харэографы гэта ўжо даказалі на практыцы. Варта замацаваць рэальнае становішча і ў тэорыі.

Але пакуль балетазнаўцам гэта ўдаецца кепска. Паўтару, што іх колькасць і адукацыя — на жаль! — саступаюць музыказнаўчым. Адзінкавыя пярэчанні, накшталт выкладзеных у гэтым артыкуле, супраць устаноўленых няправільных нормаў, мала што даюць. Музыказнаўцы "ломяць", балетныя крытыкі "гнуцца". Але ўсё роўна — ура! Бо ўсё гэта не так ужо і важна: справядлівасць урэшце будзе адноўлена. Важней іншае: харэазнаўства атрымала цяпер сур'ёзную дапамогу ад музыказнаўства. І разам яны пэўна ж здолеюць лепш спасцігнуць складаную сінтэтычную прыроду балета.

**Юлія ЧУРКО**

МУЗЫКА

# Пачалося з песні...

***Добра памятаю дзень святога Валянціна тры гады таму. Мне давялося прысутнічаць на святочным канцэрце ў Лідскім Доме культуры. Нечакана адкрыў для сябе цудоўных спевакоў, якія з натхненнем выконвалі творы невядомага лідскага аўтара. Я павіншаваў маладых артыстаў і прапанаваў ім ідэю: стварыць песенны тэатр "Ліда-мюзікл".***



Ідэя аказалася жыццяздольнай. Узначаліў новы калектыў Вячаслаў Пыпець — кампазітар, паэт, аранжыроўшчык. За кароткі час "Ліда-мюзікл" даў больш за 100 канцэртаў. Браў удзел у многіх абласных, рэспубліканскіх, міжнародных фестывалях і конкурсах. Сярод іх "Песня над Нёманам", "Усе мы родам з дзяцінства", беларускі фестываль дзіцячай песні "Спяваем з аркестрам...", V Міжнародны конкурс маладых кампазітараў імя Максіма Багдановіча.

Для некаторых юных аўтараў, якія прадстаўлялі на конкурс песні, Вячаслаў Пыпець зрабіў фанаграмы, у тым ліку для ўжо вядомай таленавітай лідчанкі Дзінары Мазітавай. Пазней гэтыя песні гучалі на яе аўтарскіх канцэртах у Лідзе, Гродне, Брэсце, Мінску, Каўнасе, Вільні. Незабыўным быў дзень, калі "Татарскі гімн" Дзінары вянчаў урачыстасці ў нашай сталіцы, прысвечаныя слаўнай даце — 600-годдзю пражывання татараў на землях Беларусі. І яркая музыка Дзінары, і натхнёныя спевы саліста "Ліда-мюзікл" Дзмітрыя Быструхіна, і арыгінальная фанаграма Вячаслава Пыпеця абудзілі залу: устаўшы, публіка горача апладзіравала артыстам з Ліды.

Вячаслаў Пыпець напісаў музыку да дакументальнага фільма "Сустрэчы на восенскай мяжы", стварыў музычнае "афармленне" сямі тэатральных спектакляў, дзесяткі песень. На конкурсе кампазітараў Гродзеншчыны ён стаў пераможцам у намінацыі "эстрадная песня"... "Ліда-мюзіклу", якім ён кіруе, нададзена званне народнага калектыву. Дзе б ні выступаў гэты тэатр песні, усюды яму спадарожнічае поспех.

У канцы мінулага года адбыўся творчы вечар Вячаслава Пыпеця. На ім прагучала 36 песень, з іх добры тузін на ўласныя вершы, нярэдкія і прыклады супрацоўніцтва з лідскімі паэтамі: Віктарам Бачаровым, Уладзімірам Васько, Пятром Макарэвічам, Міхасём Мельнікам, Сяргеем Гейлем. Дарэчы, Пыпець вельмі патрабавальны да песенных тэкстаў.

У складзе "Ліда-мюзікл" спевакі розных узроставых груп: дзеці, юнакі, дарослыя. Незвычайныя вакальныя здольнасці Дзмітрыя Быструхіна зрабілі яго ўлюбёнцам публікі. Уражвае голас Ігара Кумпеля, кранаюць спевы Дзяніса Варановіча, пранікнёны бас у Віктара Верамейчыка, імпульсіўныя Наталля Шурмей і Андрэй Ус. Па-свойму арыгінальныя Святлана Мельнікава, Галіна Піваварчык, Наталля Даргель... Для кожнага саліста кіраўнік "Лідамюзікла" стараецца напісаць песню, якая адпавядае індывідуальнасці выканаўцы. Да таго ж, некаторыя з іх самі ствараюць песні, здатныя ўпрыгожыць канцэрт.

Творы Вячаслава Пыпеця разнастайныя: тут і чыста лірычныя мелодыі, лірыка-драматычныя рэчытатывы і глыбока трагедыйныя арыі, сучасныя забаўляльныя шлягеры і вясёлыя, жартоўныя прыпеўкі ў народным духу. Ёсць творы для эстраднага аркестра і асобных інструментаў. Таленавіты аранжыроўшчык і тонкі стыліст, Пыпець, робячы аркестроўкі або фанаграмы, пазбягае агульных месцаў і штампаў, шукае свежыя гукавыя вобразы і фарбы.

А ці ёсць у "Ліда-мюзікла" праблемы? Так. У асноўным яны звязаны са слабой матэрыяльна-тэхнічнай базай: адсутнічаюць музычныя інструменты належнай якасці, камп'ютэры, няма прафесійнага гукааператара, балетмайстра, педагога-вакаліста. Пастаянна ўзнікаюць цяжкасці з касцюмамі, дэкарацыямі, рэкламай. Хочацца верыць, што дырэкцыя лідскага Дома культуры і мэр Ліды Уладзімір Міхайлавіч Малец знойдуць сродкі, каб забяспечыць усім неабходным самабытны калектыў. Толькі тады з'явіцца рэальная магчымасць ператварыць тэатр песні ў паўнацэнны музычны тэатр.

Напярэдадні новага года "Ліда-мюзікл" быў узнагароджаны Ганаровай граматай Гродзенскага аблвыканкама. Гэта радуе і абнадзейвае.

**Віталь РАДЗІЁНАЎ,**
**старшыня асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

*На здымках: салісты "Ліда-мюзікла" і яго кіраўнік Вячаслаў ПЫПЕЦЬ.*



## Пражытае і перажытае

**80-годдзю з дня нараджэння лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы паэта Міколы Аўрамчыка быў прысвечаны адкрыты ўрок, які адбыўся ў бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў. З расказам пра свой жыццёвы і творчы шлях славуты майстар слова выступіў перад вучнямі 11-га класа мінскай сярэдняй школы N 10.**

**Падчас шчырай, даверлівай размовы з вучнямі паэт чытаў свае вершы, падзяліўся ўспамінамі пра сустрэчы з Янкам Купалам, яго жонкай Уладзіславай Францаўнай, сёстрамі Маняй і Лёдзяй, пра сяброўства, што доўгія гады звязвала яго з Піменам Панчанкам, Аркадзем Куляшовым, Уладзімірам Караткевічам, прыгадаў цікавыя — смешныя і сумныя — здарэнні, адказаў на шматлікія пытанні вучняў.**

**Адкрытыя ўрокі, сустрэчы пісьменнікаў з моладдзю ў Доме літаратара робяцца добрай традыцыяй, прыцягваюць увагу вучняў і настаўнікаў, выклікаюць цікавасць школьнікаў, імкненне як мага больш ведаць пра гісторыю і культуру Беларусі.**

**Марыя РУДОВІЧ**

## На радзіме Міхася Чарота

**Рудзенск, яго ваколіцы цесна звязаны з гісторыяй беларускай літаратуры. Міхась Чарот і Уладзімір Хадыка, Рыгор Папарацъ і Хвядос Шынклер, Генадзь Кляўко і Таіса Бондар, Уладзімір Ляпёшкін — пералік можна доўжыць. Адметна тое, што творчасць усіх гэтых літаратараў добра ведаюць у самім Рудзенску. Найпершая заслуга ў гэтым належыць калектывам дзвюх гарпасялковых бібліятэк — дарослай (дарэчы, чытачамі яе з'яўляюцца больш за 1000 чалавек) і дзіцячай (больш за 800 чалавек).**

**Пра літаратурныя традыцыі краю ішла гаворка на сустрэчы чытачоў рудзенскіх бібліятэк з аўтарам кнігі "Літаратурная карта Пухаўшчыны" — журналістам і краязнаўцам Алесем Карлюкевічам. Многія старонкі яго даследавання тычацца Рудзенска, яго літаратурнай гісторыі. Удзел у размове, акрамя А. Карлюкевіча, прынялі дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Прановіч, мясцовыя рудзенскія літаратары Міхаіл Пацыёра і Аліна Сідорчык.**

**Міхаіл ПЦІЧАНСКІ**

## Што такое анамастыка?

**Дацэнт кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. Пушкіна Вера Емельяновіч вядомая ў рэспубліцы даследчыца, якая каля дваццаці гадоў займаецца вывучэннем розных пытанняў анамастыкі. Таму зусім невыпадковае з'яўленне ў свет яе метадычнага дапаможніка "Беларуская анамастыка ў школе".**

**У дапаможніку разглядаюцца асноўныя раздзелы беларускай анамастыкі — антрапаніміка і тапаніміка, даюцца рэкамендацыі па выкарыстанні анамастычнага матэрыялу — імёнаў, прозвішчаў, геаграфічных назваў — непасрэдна ў час працы з вучнямі ў школе, з будучымі настаўнікамі ў студэнцкай аўдыторыі. Больш таго, і студэнт-філолаг, і настаўнік знойдуць у выданні распрацоўкі дзейнасці тапанімічнага гуртка, праграму факультатыву "Беларуская анамастыка", сцэнарый вечара "Падарожжа ў краіну імёнаў", конкурсу-гульні па тапаніміцы.**

**Кожны раздзел падручніка мае даволі поўны спіс рэкамендацыйнай літаратуры, у які (акрамя манагарфічных выданняў) уключаны найбольш адметныя публікацыі ў часопісах і газетах.**

**Выдаў гэтую кніжку Брэсцкі абласны інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі.**

**Уладзімір ТАРАСЮК**

"ЛіМ"-ФОТА

*І як спяшаюцца гады!*
*Як хутка вянуць навальніцы!..*
*Паспець бы толькі, не стаміцца,*
*Не збіцца з маладой хады...*



**На здымку: малады Генадзь БУРАЎКІН у майстэрні маладога Івана МІСКО. 1971 год.**

ЮБІЛЕІ

# Кніжныя скарбы

16 лютага споўнілася 75 год з дня заснавання Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Да гэтай знамянальнай даты ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў арганізавана выстаўка, якая раскрывае багацце фондаў ЦНБ і знаёміць чытачоў са славутымі помнікамі пісьменства.

Фонд аддзела налічвае каля 70 тысяч рукапісных і друкаваных адзінак, якія арганізаваны ў наступныя калекцыі: рукапісныя кнігі, кнігі кірылічнага і грамадзянскага друку, старадрукаваныя замежныя выданні XV—XVIII стагоддзяў, рэдкія і каштоўныя выданні XIX—XX стст. на расійскай і замежных мовах, газет і часопісаў, мініяцюрных выданняў. У аддзеле захоўваецца 50 рукапісных архіваў беларускіх вучоных, пісьменнікаў, мастакоў і грамадскіх дзеячаў.

Гордасцю і прадметам асобай увагі з'яўляецца калекцыя літаратуры на беларускай мове і беларусазнаўчых выданняў, так званая "Беларусістыка".

Самастойнымі адзінкамі захоўваюцца тры асабістыя калекцыі. Гэта бібліятэка А. Багдановіча, беларускага фалькларыста і этнографа, бацькі М. Багдановіча, збор кніг літаратуразнаўцы, бібліёграфа, гісторыка кнігі П. Беркава і ў асобным мемарыяльным пакоі захоўваецца бібліятэка беларускага паэта П. Глебкі і абсталяванне яго рабочага кабінета.

Пачынаецца экспазіцыя рукапіснымі кнігамі, сярод якіх Тора на пергаменце і два "Кітабы" — кнігі, напісаныя на беларускай мове арабскім пісьмом татарамі, што пасяліліся на Беларусі.

На адным з наступных раздзелаў экспазіцыі выстаўлены кнігі кірылічнага друку, сярод якіх ёсць вельмі рэдкія асобнікі. Такія, як "Евангелле напрастольнае" 1575 года выдання з гравюрамі П. Мсціслаўца і "Евангелле вучыцельнае", надрукаванае ў Заблудаве ў 1569 годзе І. Фёдаравым і П. Мсціслаўцам.

Сярод старадаўніх выданняў вылучаецца Брэсцкая Біблія. Часам яе называюць "Радзівілаўскай", таму што выдадзена яна на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага ў Брэсцкай друкарні ў 1563 годзе.

Сярод асобнікаў, надрукаваных кірыліцай, асобнае месца належыць кнігам свецкага зместу. Такім, напрыклад, як "Граматыка" Мялеція Смятрыцкага 1649 года выдання. Знакаміты падручнік адыграў вялікую ролю ў адукацыі рускага і іншых славянскіх народаў. Аж да з'яўлення ў 1775 годзе "Расійскай граматыкі" М. Ламаносава па ім вучыліся ўсе расійскія шкаляры і ўсе тыя, хто жадаў авалодаць "художеством глаголати и писати".

Помнікам друкарскага мастацтва лічыцца таксама ўпершыню выдадзены славяна-грэка-лацінскі "Буквар" (1701 г.). Яго складальнік, дырэктар Маскоўскай сінадальнай друкарні Ф. Палікарпаў-Арлоў назваў сваю кнігу "яко первоначальное детскому восколодобному уму руководство". Надрукаваны буквар у два колеры — чорным і чырвоным.

Далей на выстаўцы — кнігі грамадзянскага друку. Самай каштоўнай часткай гэтай калекцыі з'яўляюцца так званыя кнігі пятроўскай эпохі, надрукаваныя ў першай чвэрці XVIII стагоддзя. Усе яны з'яўляюцца вялікай бібліяграфічнай рэдкасцю і захаваліся да нашых часоў у невялікай колькасці асобнікаў.

Амаль адразу пасля ўвядзення грамадзянскага шрыфту ўсе дзяржаўныя распараджэнні выдаюцца друкарскім спосабам. У нашай калекцыі ёсць некалькі ўзораў такіх выданняў. Адно з іх — "Інструкцыі і артыкулы ваенныя..." (1710 г.). Да гэтага часу на флоце карысталіся асобнымі рукапіснымі правіламі. "Інструкцыі" былі адрэдагаваны Пятром І. Гэта відаць з ягонага пісьма да Апраксіна, у якім ён піша: "Правы морския выправил и пошлю, не замешкать, к Москве печатать..."

Асобнае месца ў друкаванай прадукцыі XVIII стагоддзя займаюць календары, ці як іх тады называлі "месяцасловы". Яны былі крыніцай ведаў па астраноміі, геаграфіі, гісторыі, медыцыне, сялянскай гаспадарцы і таму карысталіся вялікай папулярнасцю сярод пісьменнага люду.

Працягваецца выстава кнігамі, надрукаванымі ў XV—XVII стагоддзях лепшымі друкарнямі Заходняй Еўропы: Альда Мануцыя, Рабера Эцьена, Хрыстафора Плантэна, Ёгана Фрабэна, Эльзевіраў і інш.

Гэта рэдкія выданні, якія захавалі дух і смак эпохі — старажытная з філігранямі папера, шрыфты, гравюры і ініцыялы, скураныя на драўляных дошках пераплёты.

Самую каштоўную частку гэтай калекцыі ЦНБ уяўляюць так званыя інкунабулы, кнігі, выдадзеныя ў 15 стагоддзі. "Хроніка" Шэдэля Гартмана — нюрнбергскага ўрача і гуманіста, надрукавана ў 1493 годзе ў двух варыянтах: на лацінскай і нямецкай мовах. У кнізе побач з пераказам біблейскай гісторыі, аўтар прыводзіць апісанне гарадоў, характарыстыкі выдатных гістарычных дзеячаў, антычных і хрысціянскіх пісьменнікаў, адзначае выдатныя падзеі ад пачатку свету да 15 стагоддзя. У кнізе каля 1800 гравюр і некаторыя з іх даследчыкамі прыпісваюцца А. Дзюрэру.

Далей на выстаўцы ідуць некалькі выданняў славутага венецыянскага друкара Альда Мануцыя, вялікай заслугай якога было ўвядзенне новага шрыфту — курсіву, выданне кніг невялікага фармату, у якіх, дзякуючы дробнаму курсіўнаму шрыфту, размяшчаліся вялікія тэксты. Адным з выданняў гэтай серыі з'яўляецца работа старажытнарымскага пісьменніка Гелія "Антычныя ночы" (1515 г.). Гэта зборнік матэрыялаў па самых разнастайных галінах ведаў: філасофіі, праве, медыцыне.

Першае, якое дайшло да нас, апісанне "Аб будове зямлі" надрукаваў Хрыстафор Плантэн у 1582 годзе. Кніга цікава тым, што на яе старонках размешчана карта свету без Амерыкі, Аўстраліі, Арктыкі і Антарктыды. Аўтар гэтага трактата — рымскі пісьменнік і географ Пампоній Мела, жыў тады (каля 46 г.н.э.), калі гэтыя землі яшчэ не былі адкрыты.

Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў па праве ганарыцца выданнямі яшчэ адной вядомай выдавецкай фірмы 16—18 стагоддзяў галандскага паходжання — Эльзевіраў.

Вялікай папулярнасцю да нашых дзён карыстаецца выдадзеная Эльзевірамі серыя так званых "Рэспублік" ці "Малых краін". Гэта статыстычнае і тапаграфічнае апісанне 35 краін свету. У кожным з іх спачатку даюцца звесткі аб тапаграфіі краіны, клімаце, расліннасці, потым ідзе апісанне прыроды, гісторыі і звычаяў яе насельніцтва. Усе 35 выпускаў вытрыманы ў адным стылі.

У нашай калекцыі іх чатыры: пра Галандыю, Бельгію, Англію і Расію — "Расія ці Масковія, а таксама Татарыя" (1630 г.). Пераплёт і частка тэксту апошняга страчаны.

З кніг, надрукаваных Эльзевірамі, хацелася б выдзеліць сачыненне рымскага натураліста Кая Плінія Другога "Гісторыя прыроды" (1635 г.), якое на працягу доўгага часу было адзінай крыніцай ведаў аб прыродзе, нягледзячы на тое, што ў ім прыведзена шмат займальных і проста неверагодных гісторый. Дарэчы, кніга гэта належала некалі Георгію Каніскаму — украінскаму і беларускаму царкоўна-палітычнаму і культурнаму дзеячу. На адвароце яе тытульнага ліста захаваўся ягоны ўладальніцкі запіс.

Сярод "эльзевіраў" сустракаюцца вельмі рэдкія і каштоўныя, захаваныя да нашых дзён у невялікай колькасці экземпляраў. Гэта надрукаванае ў Лейдэне самае славутае сачыненне заснавальніка антычнай медыцыны Гіпакрата "Афарызмы" (1623 г.). Напісаны яны Гіпакратам, як мяркуюць даследчыкі, у глыбокай старасці і змяшчаюць у скарочаным выглядзе ўсе ягоныя даследаванні. "Афарызмы" на працягу многіх стагоддзяў, спачатку ў рукапісным, а потым у друкаваным выглядзе, былі адным з папулярнейшых падручнікаў па практычнай медыцыне і чыталіся на ўсіх універсітэцкіх курсах.

Асобна прадстаўлены выданні з аўтографамі і дарчымі надпісамі беларускіх пісьменнікаў: Т. Кляшторнага, П. Галавача, К. Чорнага, С. Дарожнага, Ю. Віцьбіча, В. Маракова, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага і вучоных, якія прысвяцілі сваю навуковую дзейнасць вывучэнню гісторыі, этнаграфіі і культуры Беларусі — Я. Раманава, М. Нікіфароўскага, Я. Карскага, А. Сапунова, М. Доўнар-Запольскага.

**Аліна ЧАРНЯЕВА,**
**загадчыца аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ АН Рэспублікі Беларусь**

ДУША

# Святло з Кармы

I

"Пашлі святло Тваё і праўду Тваю; няхай вядуць яны мяне і прывядуць на святую гару Тваю і ў сховы Твае...".

Колькі гэтага святла ў Бога?! — бясконцага, бязмежнага, невычэрпнага... Вось і яшчэ адно — Святло з Кармы...

Успыхнула зусім нядаўна. Не чакалі. Не спадзяваліся. Не думалі... Зняволеныя штодзённай мітуснёй, знясіленыя здзяйсненнем нашых мараў і жаданняў, чаго мы толькі ні шукаем у гэтым жыцці! Акрамя — уласных душ. Страціўшы іх аднойчы, не спяшаемся, не рупімся — быццам наперадзе цэлая вечнасць...

А вечнасць — якраз там, дзе Святло. І першае адчуванне — як бы папярэдняе гэтай вечнасці прыходзіць там — у Карме. Там спыняецца час, там адступае мітусня, там — пануе Святло. І імя гэтаму Святлу — Хрыстос, а праваднікам гэтага Святла з'яўляецца святы праведны Іаан Кармянскі.

Нарадзіўся 20 кастрычніка 1837 года ў сям'і святара — іерэя Іаана Гашкевіча, імя сваё атрымаў у гонар апостала любові Іаана Багаслова. Бацькоўскі дом знаходзіўся побач з храмам (у мястэчку Стрэшын Рагачоўскага павета) на правым беразе Дняпра. З ранняга дзяцінства Іаан дапамагаў бацьку ў храме. Пасля заканчэння царкоўнапрыходскай школы хлопчык вучыцца ў духоўным вучылішчы, а ў 1855 годзе васемнаццацігадовы юнак паступае ў Магілёўскую духоўную семінарыю. 24 лютага 1862 года яго рукапалажылі ў іерэі і накіравалі служыць у царкву Ражства Багародзіцы ў вёску Шэрсцін Рагачоўскага павета. Там у малітвах і духоўных подзвігах прайшло 14 гадоў служэння іерэя Іаана Гашкевіча.

Далейшае яго служэнне працягваецца ў храме свяціцеля Мікалая ў вёсцы Агароднія Гомельскага павета. За бездакорнае служэнне айцец Іаан быў адзначаны ўсімі відамі свяшчэнніцкіх узнагарод: набедранікам, скуф'ёй, камілаўкай, а ў 1896 годзе — залатым наперсным крыжам. За 12 гадоў працы ў благачынніцкім савеце ён быў узнагароджаны ордэнам святой Ганны III ступені. У 70 гадоў атрымаў чын протаіерэя. Праз пяць гадоў быў узнагароджаны ордэнам святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра IV ступені. У 75 гадоў айцец Іаан саступае месца святарства сваёму малодшаму сыну Іаану. Дарэчы, пасля нараджэння малодшага сына бацюшка Іаан здзейсніў сваю запаветную мару дзяцінства — пабываў у Кіева-Пячэрскай Лаўры. Там атрымаў бласлаўленне ад старцаў на манаскі лад жыцця. Да смерці не еў мяса, прытрымліваўся строгага посту, а ў сераду і пятніцу пасля вячэрні ўжываў толькі прасвірку і крыху вады. Айцец Іаан бесперапынна тварыў Ісусаву малітву, навучаў усіх любові, прызываў да пакаяння. У храме яго заўсёды панавала Божая ласка, таму да яго сцякаліся людзі з блізкіх вёсак.

Сцякаюцца яны і цяпер. І ужо — не толькі з блізкіх вёсак.

II

"Пашлі святло Тваё і праўду Тваю..." І пасылае.

Яшчэ ў III стагоддзі св. Кіпрыян Карфагенскі сказаў: "Каму Царква не маці, таму Бог не Айцец". І сапраўды, для тых, хто жыве па-за хрысціянствам, Бог — не Айцец. Ён — "Адзіная Энергія", "Карма", "Нірвана", "Боскі прынцып", "Безаблічны Брахма"... О, з якім лёгкім даверам мы захапляемся і кармай, і нірванай, і агні-ёгай... Вось, нарэшце, тое, што нам патрэбна! Нам здаецца, што мы знаходзім, а мы — страчваем. Нам здаецца, што мы ўзлятаем, а мы — падаем у бездань. І толькі Хрыстос сказаў: "Ойча, Я адкрыў імя Тваё чалавекам" (Ін. 17, 5-6). Гэта новае імя Бога — Ойча. І злучаемся мы з ім у Яго Сыне — у Хрысце праз Яго Цела, якое ёсць Царква. Хрыстос даў нам не толькі права звяртацца да Бога — "Ойча", Ён даў нам Дух, якога свет прыняць не можа (Ін. 14, 17). І тым больш Ён даў гэты Дух Сваім святым і праведнікам, да якіх і належыць Іаан Кармянскі.

Бацюшка Іаан валодаў дарам прароцтва. Аднойчы ён сказаў, што за кроў памазаніка Божага пральле Расія многа крыві. І гэта збылося. Свайму сыну Іаану ён прадказаў: "Да цябе ў храм прыйдзе Маці Божая, пасля Яе прыходу храм апусцее". І ў 30-ыя гады зайшла ў храм жанчына, незвычайна апранутая, падышла да Чашы без споведзі. Некаторыя бачылі каля жанчыны юнакоў у белым адзенні. Калі выйшаў бацюшка з Чашай, кроў у Чашы пачала кіпець. Іерэй спалохаўся, а жанчына стала нябачнай. Праз некаторы час храм закрылі, а айца Іаана-малодшага адправілі ў высылку.

Пры жыцці бацюшка дапамагаў удовам і сіротам. Калі да яго прыйшла ўдава, у якой засталося пяць сірот-дзяцей (бацька загінуў у першую сусветную вайну), ён аддаў ёй сваю карову.

Пасля службы ў нядзелю бацюшка выганяў апантаных нячыстымі духамі. Прывозілі да яго хворага, трымаючы яго ўтрох або ўчатырох, а вяртаўся чалавек ад яго здаровым, ацалелым, славячы Госпада.

Перад смерцю бацюшка гаварыў: "Памру — сонейка свяціць будзе, дзень ясны. Век не ездзіў на машыне, а пасля смерці пакатаюць... Аслабее ў людзях вера, танцаваць на нас будуць". І яшчэ: "Будуць скакаць на мне, але труна моцная будзе". Усё, як прадказаў бацюшка, збылося. Увосень 1917 года, у 80 гадоў памёр старац Іаан Гашкевіч. Дзень яго смерці быў сапраўды сонечны. Пахавалі айца Іаана з правага боку ад алтара Свята-Мікалаеўскай царквы, дзе ён служыў. У 50-х гадах гэты храм спалілі, а ўсё, што засталося ад пажару, сысцілі трактарам у роў. Крыжы таксама знеслі. Месца стала роўнае, і там зрабілі футбольнае поле і пляцоўку для танцаў. Колькі ні скакалі, але труна вытрымала і засталася амаль што цэлай.

Мошчы бацюшкі Іаана праляжалі ў зямлі 74 гады. Айцец Стэфан, настаяцель Свята-Пакроўскай царквы ў в. Карма, пісаў у "Жыцці", што шукаў месца былога храма ў Агароднях з думкай: "Знайсці б мошчы гэтага ўгодніка Божага, і боль маёй душы стаў бы радасцю". Бо нейкі ўнутраны голас казаў яму, што бацюшка будзе ляжаць нятленным. І ён знайшоў гэтыя мошчы.

У 1991 годзе, па промыслу Божаму — напярэдадні прыезду ў Гомель Патрыярха Маскоўскага Аляксія II, былі знойдзены мошчы бацюшкі Іаана і перанесены па блаславенні епіскапа Гомельскага і Жлобінскага Арыстарха ў Свята-Пакроўскую царкву вёскі Карма Добрушскага раёна. Была створана камісія з трох святароў па абследаванні святых мошчаў, якая і засведчыла нятленне мошчаў айца Іаана. Цэлы тыдзень служылі паніхіды, раніцай і ўвечары. У дзень прыезду Свяцейшага Патрыярха ў Гомель, калі адкрылі ў Карме царкву, ад мошчаў ішоў духмяны пах. Ёсць многа сведак гэтага. А манашка Ананія, калі падышла да мошчаў, адчула ціхі павеў ветру, які разносіў па храме незямную духмянасць.

Звычай ушанавання святых астанкаў вядомы са старажытных часоў. У Старым Запавеце, у Чацвёртай кнізе Царстваў (гл. 13) паведамляецца аб уваскрэшанні мёртвага, якога пры пахаванні дакранулі да касцей прарока Елісея. Паводле старазапаветных уяўленняў лічылася, што дакрананне да мёртвага цела апаганьвае чалавека, але адбыўся цуд: астанкі святога не апаганьвалі, а жыватварылі — даравалі жыццё. Адбываліся таксама цуды ад мошчаў прарокаў Самуіла, Данііла, Давіда, патрыярхаў Іосіфа і Захарыі. Гэтым Гасподзь абвяшчаў Сваёй Царкве, што благадаць, якая падаравана праведнікам пры жыцці, не адымаецца і пасля іх смерці, а застаецца ў іх астанках і творыць праз іх цуды.

Ужо ў старажытнай хрысціянскай царкве літургія адбывалася на магілах мучанікаў. У 269 годзе было пастаноўлена, што літургія павінна адбывацца толькі на мошчах святых. Нярэдка і самі храмы будаваліся на месцы пахавання ці мучэння хрысціян.

Пасля VII Усяленскага Сабору ў Царкве ўсюды выкарыстоўваліся антымінсы — платы, у якія ўкладвалася часцінка святых мошчаў. Гэтыя антымінсы клалі ў храмах на прастол. Таксама змяшчалі часцінкі мошчаў у запрастольныя і напрастольныя крыжы, у святыя іконы.

Важнымі прыкметамі святых астанкаў з'яўляюцца не толькі іх захаванасць на працягу многіх гадоў знаходжання ў зямлі, але і цудатварэнні, якія адбываюцца ад іх. Часта мошчы духмяна пахнуць, або выдзяляюць міру. Усім вядома, напрыклад, што мошчы вялікага ўгодніка Божага Мікалая Цудатворца знаходзяцца ў духмяным міры, якую яны самі і выдзяляюць.

Часта зусім стлее труна, жалезныя рэчы ржавеюць і рассыпаюцца ў прах, а святыя астанкі застаюцца непашкоджанымі на працягу стагоддзяў. У вадзе была знойдзена труна прападобнага Сергія Раданежскага. Пасля трыццацігадовага знаходжання ў такіх умовах цела святога засталося цэлым і светлым, не было пашкоджана нават адзенне на ім.

У 1842 годзе былі адкрыты склеп, у якім быў пахаваны свяціцель Ціхан, епіскап Варонежскі. Склеп абваліўся, труны амаль не было, а цела свяціцеля было цалкам нятленым і нават яго архірэйскае адзенне.

А пры адкрыцці мошчаў свяціцеля Ціхана, Патрыярха Маскоўскага, адна з панагій (спецыяльная ікона Маці Божай у выглядзе медальёна, якую носяць на грудзях епіскапы), зробленая з перламутру зусім развалілася, а мошчы захаваліся. Мімаволі прыходзіць на ўспамін: "Беражэ Гасподзь косці іх..." І хаця мошчы праляжалі ў зямлі 67 гадоў і ў склепе была 100%-я вільготнасць, захавалася нават вербачка (бо цела свяціцеля Ціхана хавалі ў Вербную нядзелю) і флакон з ружавым алеем, які націралі цела Патрыярха перад пахаваннем.

Невырашальнай загадкай для вучоных розных краін і веравызнанняў з'яўляюцца мошчы св. епіскапа Спірыдона Трыміфунцкага (памёр каля 348 г.), што захоўваюцца на востраве Корфу. Цела яго мяккае і расцягваецца, як бы жывое, але разам з тым і тугое: яно не згніло і не сатлела. Цела дастаюць і кладуць у каўчэг, у якім яго ўрачыста носяць па горадзе.

У 1692 годзе на Урале адбыўся цікавы выпадак: труна з нятленнымі астанкамі невядомага чалавека выйшла з магілы і стала паверх яе. Прычынай гэтага была крыніца, якая забіла знізу пад труной. Адбыліся цудатварэнні. Мітрапаліт Ігнацій Табольскі прасіў народ маліцца, каб Бог адкрыў гэтую таямніцу. Так і здарылася: "Сімяонам клічуць яго! Сімяонам завуць яго!" Так па волі Усявышняга быў праслаўлены нікому не вядомы пры жыцці святы — праведны Сімяон Верхатурскі.

Увосень 1941 года, калі немцы занялі Кіеў, немец-камендант вырашыў агледзець пячоры Лаўры, якія да вайны былі закрыты бальшавікамі. У час агляду камендант паводзіў сябе пагардліва і нахабна, а каля мошчаў аднаго са святых загадаў салдату, які суправаджаў яго, ткнуць штыком у "ляльку". Але нечакана на месцы парэзу з цела выступіла кроў, як гэта бывае ў жывога чалавека. Нахабны настрой адразу прапаў. Немцы ў жаху пакінулі пячоры, а праз некаторы час камендант загадаў перадаць кіеўскія святыні веруючым, і ў Лаўры пачаліся богаслужэнні.

Нятленнасць святых мошчаў і цуды ад іх сведчаць нам аб увасабленні Сына Божага ў Ісусе і Яго крыжовай перамозе над смерцю. Смерць ужо не мае поўнай улады над целам, што асвечана Божым дарам Святога Духу. "Смерць святога хутчэй сон, а не смерць", — кажа святы Іаан Дамаскін.

У апошнія гады адабраныя ў Царквы святыні сталі зноў вяртацца ў храмы. Толькі з 1989 па 1991 год Царкве былі вернуты мошчы святога Аляксандра Неўскага, святых Засімы і Савацція Салавецкіх, свяціцеля Мітрафана Варонежскага, правая рука апостала Андрэя Першазванага, галава свяціцеля Іаана Златавуста і інш. У 1988 годзе былі адкрыты святыя астанкі прападобнага Амвросія Опцінскага, а ў Мікола-Бабаеўскім манастыры — мошчы свяціцеля Ігнація Бранчанінава, якія былі перанесены ў Толгу. Нятленнасць мошчаў і цудатварэнні іх азначаюць, што ўгоднік Божы праслаўлены Госпадам у Царкве Нябеснай і заслугоўвае пашаны ў Царкве зямной.



III

"...Няхай вядуць яны мяне і прывядуць на святую гару Тваю і ў сховы Твае". І вядуць.

Пакуль яшчэ не так высока, як у гэтым псалме, але ў Карму прывялі. Крыху на ўзвышшы — ясны, блакітны храм, Свята-Пакроўская царква. Нейкі светлы, а можа, лепш прасветлены, як бы ахінуты нябачным нябесным святлом. Потым адна з паломніц пакажа мне фотаздымак, на якім храм і святло — вакол яго і над ім...

Месца для царквы вызначыў сам бацюшка Іаан Кармянскі. Спачатку хацелі яе пабудаваць на месцы старой, але бацюшка Іаан параіў настаяцелю правесці тры дні ў малітве і посце, каб Гасподзь сам указаў месца. Вернікі і іх настаяцель так і зрабілі. І Гасподзь адкрыў гэтае месца: у цэнтры вёскі, на ўзгорку, увечары запальваліся свечкі. Тады і вырашылі, што менавіта на гэтым месцы трэба будаваць храм. Так і праслаўляюць святога праведнага Іаана Кармянскага ў "Акафісце":

***Радуйся, место строительства его указавый.***

***Радуйся, в нем же место славно себе уготовавый.***

Так, мошчы святога праведнага Іаана Кармянскага спачываюць у Свята-Пакроўскай царкве в. Карма Добрушскага раёна. Калі ўпершыню ўваходзіш у храм, адчуванне такое, быццам пераступіў праз нейкую мяжу — там іншы свет...

У Свята-Пакроўскай царкве ў суботу пасля вячэрняй службы ідуць хрэсным ходам вакол храма. Там жа, каля царквы, на месцы перахавання бацюшкі Іаана зрабілі мармуровую грабніцу. Тут айцец Іаан быў пахаваны ў 1991 годзе, калі былі знойдзены яго мошчы, да таго часу, калі ён быў кананізаваны — да мая 1998 года. У Карму прыязджае многа людзей. Бог не ёсць Бог мёртвых, але Бог жывых. Святы і праведны Іаан Кармянскі не пакідае нас: ён умацоўвае нашу веру, ён вяртае нас на шлях пакаяння, ён ацаляе нашы хваробы і ацаляе нашы душы. Маецца шмат фактаў цудоўных ацаленняў паломнікаў у Карме.

У час службы манахіня Феадосія, алтарніца Свята-Пакроўскай царквы ў Карме, якая заўсёды моліцца на амбоне каля кліраса, убачыла, што ў алтар увайшоў старэнькі бацюшка. Яна падумала, што прыехаў якісьці госць, аб чым пасля і запытала ў настаяцеля. І калі ён сказаў, што нікога не было, яна сама здагадалася: "Дык гэта ж бацюшка Іаан заходзіў, як я адразу не пазнала?"

А зусім нядаўна адбыўся яшчэ адзін цуд. Прыхаджанка Л. Сідорка з Чачэрска купіла ў пачатку верасня ў храме папяровую ікону святога праведнага Іаана Кармянскага. Ікона была змешчана ў рамку пад шкло і пастаўлена ў Святы кут. А 12 верасня ў час малітвы ікона пачала міраточыць: Лідзія Мікалаеўна заўважыла чырвоныя кроплі, падобныя на кроў. Ікону пасля перанеслі ў храм, а 16 верасня прыехаў благачынны — архімандрыт Стэфан, пасля чытання акафіста ікону адкрылі. Сама папяровая ікона аказалася наскрозь насычана вадкасцю, а на шкле з унутранага боку былі кроплі густой вадкасці, падобныя да лампаднага алею. Гэта яшчэ адно сведчанне таго, што бацюшка не пакідае нас.

Прыкладаў цудаў і ацаленняў можна прыводзіць многа. Як і пры жыцці, так і цяпер бацюшка Іаан выганяе нячыстых духаў, кожную нядзелю пасля літургіі айцец Стэфан вычытвае хворых.

"Грэх робіць нас больш нешчаслівымі, чым вінаватымі", — казаў прападобны Іаан Касіян. Але — "шчодры і міласэрны Гасподзь, доўгацярплівы і бясконца міласэрны...". І гучыць ужо два тысячагоддзі — ахвярна і незмаўкальна: "Пакайцеся...", "Прыміце, ешце, гэта ёсць Цела Маё, што за вас ломіцца, дзеля адпушчэння грахоў...", "Піце з яе ўсе, гэта ёсць Кроў Мая Новага Запавету, што за вас і за многіх праліваецца, дзеля адпушчэння грахоў..."

Але ці чуем мы гэты Голас?!

...Лятуць дні, спяшаюцца, мяняюцца, нібы ў калейдаскопе... І калі вам захочацца цішыні і спагады — паедзьце ў Карму. І калі вам захочацца чыстых і светлых слёз — паедзьце ў Карму. І калі вам захочацца ўрачыстага і высокага маўчання — паедзьце ў Карму.

І анёла-ахоўніка вам — у дарогу!

**Ала НІКІПОРЧЫК**

*г. Гродна*

*Выцінанка-абраз "Св. Іаан Кармянскі". Аўтар — гродзенская мастачка Валянціна Волах; здымак Свята-Пакроўскай царквы ў г. Карма, зроблены паломнікамі.*





## Пра вечнага "Фаўста"...

**Летась, у год юбілею вялікага Ёгана Вольфганга Гётэ, быў ажыццёўлены адметны мастацкі праект, які выклікаў гарачую цікавасць нашай грамадскасці і атрымаў розгалас за межамі Беларусі. На сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра адбылася прэм'ера оперы Антонія Генрыка Радзівіла "Фауст", створанай на лібрэта самога аўтара трагедыі, якое адмыслова перакладаў па-беларуску перакладчык Васіль Сёмуха. Мы неаднаразова пісалі пра гэтую падзею**



**і між іншым інфармавалі пра яшчэ адзін прэм'ерны сюрпрыз: выхад арыгінальнага літаратурна-мастацкага выдання, насычанага пазнавальнымі звесткамі, каментарыямі, цытатамі, малавядомым іканаграфічным матэрыялам, з тэкстам лібрэта (па-беларуску і па-нямецку). Але ж той, каму пашчасціла патрымаць у руках выданне пад назваю "Faust". Опера А. Г. Радзівіла на лібрэта Ё. В. Гётэ", пагодзіцца: атрымалася унікальная кніга, вартая асобнага добрага слова.**

**Добрае слова, і не адно, адрасуем чыннікам праекта — Інстытуту імя Гётэ, Міністэрству культуры Беларусі, Нацыянальнаму тэатральна-канцэртнаму аб'яднанню "Беларуская Капэла". Персанальна — мастацкаму кіраўніку "БК" Віктару Скорабагатаву, укладальніку (і сааўтару) гэтай змястоўнай навінкі, які, дарэчы, ажыццявіў рэжысуру спектакля "Фауст" і выканаў у ім ролю Мефістофеля.**

**Адмысловае "дзякуй" — калектыву мінскага выдавецтва "Тэхналогія" (рэдактары Алена Трусава, Галіна Разанава, мастацкае афармленне і макет Віталя Катовіча), дзякуючы якому пабачыла свет прыгожая кніжыца. Яна дадала адмысловы штрых да партрэта легендарнага Фаўста, эпохі Антонія Генрыка Радзівіла, і не толькі. Яна зрабілася марай бібліяфілаў ды меламанаў: пры накладзе 500 асобнікаў — яно й не дзіва...**

**С. Б.**

## Сады і паркі



**Цыкл жывапісных работ пад такой назвай паказаў у Музеі сучаснага мастацтва малады мастак Андрэй Сіцько. Схаваныя за ажурнымі рашоткамі, краявіды здаюцца прывіднымі, далёкімі і недасягальнымі. Мастак нібы гуляе з гледачом, яго твор "абаронены" ад рэальнасці і наяўнасцю рамы, і дэкаратыўным узорам рашоткі, набліжанай да пярэдняга плана. Гульня мастака раскрываецца, калі доўга разглядаеш яго творы. І тады за ўраўнаважанай статыкай, якая найперш кідаецца ў вочы, прыкмячаеш дынаміку надзвя энергічных мазкоў. Яго работы сонечна-цёплыя, але не кідкія. Магчыма, такім нечаканым чынам мастак імкнецца разбурыць звыклае, зараней зададзенае ўспрыманне рэчаіснасці.**

**Н. Ш.**

*На здымку: Рамантычны сад, з серыі "Прыватная ўласнасць".*

БЫЛО...

# "Асноўнае пытанне беларусізацыі — пытанне аб роднай мове..."

Беларусізацыя 20-х гадоў — унікальная з'ява ў савецкай гісторыі нашай рэспублікі. У той час яна выступала і як адно з вядучых выяўленняў нацыянальнай палітыкі на партыйна-дзяржаўным узроўні, і як цэлая сукупнасць канкрэтных мерапрыемстваў нацыянальна-дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва. Галоўная задача заключалася ў адраджэнні і ўсемагчымым развіцці нацыянальнай мовы. "Асноўным пытаннем беларусізацыі з'яўляецца пытанне аб беларускай мове", — падкрэслівалася ў рэзалюцыі "Чарговыя задачы КП/б/Б у нацыянальнай палітыцы", прынятай пленумам ЦК КП/б/Б у студзені 1925 г. Таму кіруючая КП/б/Б, інтэрнацыяналісцкая па сваёй прыродзе, павінна была ў абавязковым парадку "прайсці праз вывучэнне беларускай мовы і асноўных прадметаў беларусазнаўства". Інакш гублялася эфектыўнасць яе працы ў масах, асабліва сярод інтэлігенцыі — галоўнага рухавіка беларусізацыі. "Авалоданне беларускай мовай ёсць ключ да кіруючай ролі партыі ва ўсім культурным будаўніцтве БССР" — выпіска са справаздачнага даклада ЦК X з'езду Кампартыі Беларусі (студзень 1927 г.).

З самага пачатку беларусізацыя цесна ўвязвалася з карэнізацыяй, інакш, з палітыкай вылучэння на кіруючую работу прадстаўнікоў усіх карэнных мясцовых нацыянальнасцей. У тагачасных партыйных рашэннях адзначалася, што галоўная ўмова пры гэтым — "вылучэнне беларускіх работнікаў у першую чаргу"...

Умоўна ў беларусізацыі вылучаюцца два этапы. Першы ахопліваў 1924—1927 гады, калі былі прыняты і пачалі праводзіцца ў жыццё асноўныя партыйна-дзяржаўныя рашэнні. На гэтым этапе праблема вырашалася пераважна на агітацыйна-арганізацыйным узроўні. Мелася на ўвазе распаўсюджванне прынцыпаў і патрабаванняў беларусізацыі на агульнаадукацыйную, прафесійную і вышэйшую школу, кнігавыдавецкую справу, прэсу, дзяржаўныя, гаспадарчыя і кааператыўныя ўстановы, прафесійныя саюзы, справаводства ў якіх у вызначаныя тэрміны пераводзілася на беларускую мову.

Сутнасць другога этапу вызначылася ў 1928 г. як спроба "прарыву" ўглыб з тым, каб беларускую мову трывала ўвесці ў быт, культуру, штодзённае жыццё шырокіх працоўных мас. Па словах першага сакратара ЦК КП/б/Б В. Кнорына, які да гэтага часу перагледзеў свае погляды на беларускую мову і беларускую культуру, на другім этапе беларуская мова павінна была стаць для працоўных "паветрам, неабходным для дыхання", "сродкам, неабходным для падтрымання існавання культурнага чалавека і грамадзяніна".

Нягледзячы на многія цяжкасці, супярэчнасці, на супраціўленне, якое аказвалася ў розных пластах грамадства, беларусізацыя мела да 1928 г. шмат набыткаў. На беларускую мову перайшло да 80% агульнаадукацыйных школ. Яна стала асноўнай мовай выкладання ў педагагічных, сельскагаспадарчых тэхнікумах, вячэрніх школах дарослых, значнай частцы прафесійных школ і рабфакаў. На беларускай мове чыталіся многія лекцыйныя курсы ў вышэйшых навучальных установах. Беларусізаваўся камуністычны універсітэт. У Інстытуце беларускай культуры распрацоўвалася беларуская тэрміналогія, вялася падрыхтоўка слоўнікаў розных відаў. Па справаздачных дадзеных, у цэнтральных партыйных, дзяржаўных, прафсаюзных органах, арганізацыях беларускай мовай валодала да 80% служачых (супраць 20% у 1925 г.), на акруговым і раённым узроўні адпаведна 70% і 36%. Павялічылася колькасць беларускамоўных газет і часопісаў. Мяняўся рэпертуар тэатраў, у які трывала ўваходзілі п'есы беларускіх аўтараў. У часцях Чырвонай Арміі была сфарміравана другая тэрытарыяльная беларуская дывізія, створана Аб'яднаная беларуская школа камандзіраў. У іншых падраздзяленнях вывучалася беларуская мова і гісторыя рэспублікі. На беларускую мову пераклалі "Інтэрнацыянал", а песня "Ад веку мы спалі" была абвешчана беларускай "Марсельезай". Прымаліся захады да беларусізацыі рэлігійнага жыцця. Як нацыянальныя святы былі адзначаны 400-годдзе беларускага друку, 20-годдзе з дня выхаду ў свет першай беларускай газеты "Наша доля", 5-годдзе з дня заснавання Беларускага дзяржаўнага універсітэта, творчыя юбілеі гісторыка У. М. Ігнатоўскага, пісьменнікаў Я. Купалы, Я. Коласа, З. Жылуновіча.

Адметнай асаблівасцю стала пашырэнне беларусізацыі паміж 1927—1928 гадамі за межы рэспублікі, у раёны Сібіры і Далёкага Усходу, дзе жыло шмат перасяленцаў з Беларусі. Ініцыятыву праявілі прадстаўнікі літаратурна-творчых аб'яднанняў рэспублікі Алесь Дудар (А. А. Дайлідовіч) і Анатоль Вольны (А. І. Ажгірэй), якія ўлетку 1927 г. пры падтрымцы беларускага ўрада наведалі пасёлкі і вёскі Сібірскага краю з перавагай беларускім насельніцтвам. Вынікам стала некалькі газетных публікацый аб жыцці і быце беларусаў у расійскай глыбінцы. Газетнымі артыкуламі аб падарожжы справа, аднак не абмежавалася. Маладыя пісьменнікі палічылі сваім абавязкам звярнуцца па выяўленай праблеме са спецыяльным лістом у вышэйшыя партыйныя і дзяржаўныя інстанцыі БССР і СССР, у якім выказалі сваё бачанне гэтай праблемы і свае прапановы па яе рашэнні. Хаця ліст не змяшчаў прапаноў кардынальнага характару, а паміж грамадскім становішчам аўтараў і тых, да каго яны звярталіся, была істотная розніца, тым не менш зварот атрымаў шырокі і рэальны водгук.

Вось гэты зварот:

**"Председателю Центрального Исполнительного Комитета Белоруссии**
**Копии: Генеральному секретарю ЦК ВКП/б/**
**Председателю Совета Народных Комиссаров**
**Народному комиссару просвещения**
**Ал. Дудара, Ан. Вольного**

В июле и августе с.г. мы по командировке Наркомпроса БССР и редакции газеты "Савецкая Беларусь" совершили путешествие в Сибирь и на Дальний Восток для ознакомления с жизнью белорусов — переселенцев в этих краях.

Не получив никаких сведений по этому вопросу ни в Инбелкульте, ни в других учреждениях, мы направились непосредственно в краевой центр Сибири — Новосибирск. Там, в краевой национальной комиссии, также полных сведений о местах расселения белорусов не нашлось. Не нашлось и точных цифр белорусского населения в Сибири. По тем же сведениям, которые удалось найти, сведениям, безусловно, не полным, что было признано и секретарем нацкомиссии, состав белорусского населения в Сибири определяет в следующих цифрах: 428700 чел.

Сведений о количестве белорусов по Красноярскому и Иркутскому округам мы получить не смогли. Не могли получить никаких сведений и у уполномоченного наркома земледелия Белоруссии в Сибири гр. Бойко, которого невозможно найти в его учреждении, где он бывает только эпизодически.

Большинство переселенцев живет здесь лет по 20, но, несмотря на это, они сохранили и язык, и одежду, и обычаи почти в полной чистоте.

Работа среди национальных меньшинств Сибири поставлена хорошо только в отношении малых национальностей, как немцы — 80 000, латыши — 60 000, мордовцы — 70 000 и др. Они имеют свои секции при [комиссии] нацмень[шинств] краевого ОНО, имеют свои газеты и довольно густую сеть школ. В отношении же белорусов, украинцев, поляков и евреев существует мнение, что среди них не нужно проводить никакой культурной работы на их языке, потому что, "живя среди русских, они вполне усвоили русский язык", как сказал делегат татарин на сибирском совещании нацменьшинств.

По официальным сведениям краевого ОНО, на всю Сибирь насчитывается 10 белорусских школ — почти на 1/2 млн. населения.

В отдельности две школы должны были [располагаться] недалеко одна от другой в Болотинском районе Томского округа — поселок Большеречье и поселок Березовка, куда мы и направились. Но, отъехав от железной дороги [и прибыв] в поселок Большеречье и поселок Березовка, мы убедились, что обе школы, отмеченные нацкомиссией как белорусские, в действительности белорусские только на бумаге, так как преподавание в упомянутых школах ведется исключительно на русском языке. Между тем крестьяне этих деревень, с их слов, очень хорошо отнеслись бы к школе на своем родном языке. Посетив эти школы в глуши Сибири и не увидев там ничего белорусского, мы позволяем себе сделать вывод о том, что и 8 оставшихся белорусских школ в Сибири не очень то стремятся к удовлетворению потребностей белорусского крестьянства.

Белорусские сельсоветы, которые, по данным той же (краевой) нацкомиссии, существуют в очень многих районах, являются белорусскими только по наименованию по причине отсутствия всякой возможности в пределах Сибири готовить людей, грамотных по-белорусски.

В связи со всем вышеуказанным необходимо, по нашему мнению, провести в жизнь следующие мероприятия:

1. Принять меры к расширению сети белорусских школ и политпросветительных учреждений в Сибири и на Дальнем Востоке.

2. Для того, чтобы дать возможность белорусской молодежи и дальше получать образование на родном языке, принять меры к организации белорусских отделений при техникумах и рабфаках Новосибирска.

3. Для управления всеми школами и политпросветительными учреждениями на белорусском языке добиться включения в смету Сибирского краевого ОНО постоянной должности белорусского школьного инспектора.

4. Обеспечить белорусское население литературой на родном языке.

В заключение мы высказываем большую благодарность правительству, которое предоставило нам возможность использовать время нашего летнего отдыха для такого важного дела, как ознакомление с жизнью белорусов-переселенцев, и мы надеемся, что правительство обратит внимание на те мысли, которые у нас сложились в результате нашего путешествия.

**Ал. Дудар**
**Ан. Вольный"**

Рэакцыя Масквы была даволі хуткай. У Новасібірскі край былі накіраваны два інспектары Наркамасветы РСФСР. Адзін з іх атрымаў заданне вывучыць становішча латышскага і латгальскага насельніцтва, другі, І. Каляда, па даручэнні беларускага інспектарата наркамата аб'ехаў усе пасёлкі і вёскі, у якіх пераважалі беларусы. Вынікам абследавання сталі грунтоўныя дакладкі, прадстаўленыя для прыняцця рашэнняў кіраўніцтву Крупінскага, Крывашэінскага, Балоцінскага раёнаў, Барабінскай і Томскай акруг, Сібірскага краю. Найбольш поўна свае вывады і прапановы І. Каляда сфармуляваў у дакладной запісцы Томскаму акрвыканкаму, якія амаль цалкам былі паўтораны ў прынятым затым рашэнні:

"1. Признать, что в работе ОкрОНО по обслуживанию белорусского населения в последнее время имеется ряд достижений:

а/ ОкрОНО добился открытия 9 белорусских школ.

б/ ОкрОНО своевременно, через инспектора нацмень[шинств], реагировал на искривления национальной политики на местах (попытка преобразовать Вознесенскую школу в русскую).

в/ Принимались меры к посылке белорусских учителей на переподготовку.

г/ белорусские школы снабжались белорусской литературой.

II. Наряду с положительными моментами работы имеются *недостатки:*

1. Нет достаточного учета белорусского населения в районах и в округе (количество белорусов в 12 000 чел. далеко от действительности). В одном Кривошеинском районе их насчитывается 3579 чел., живущих отдельными поселками.

# Любоў Уладыкоўская-Канаплянік: "Ад краязнаўства — да філасофіі культуры"



***Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, што месціцца ў колішнім будынку Інбелкульта па Рэвалюцыйнай, 15 з'яўляецца ўстановай, якая па сутнасці выконвае функцыі Інстытута Беларусі, бо як запісана ў ягоным статуце, "комплексна вывучае тэарэтычныя і прыкладныя праблемы беларусазнаўства і народазнаўства, канцэнтруе, развівае і распаўсюджвае веды аб Беларусі і яе народзе..." І веды гэтыя, і дух беларускасці, як лічыць дырэктар Скарынаўскага цэнтра спадарыня Любоў УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК, запатрабаваныя.***

**— Любоў Мікалаеўна, ёсць думка, што зараз зусім не да папулярызацыі нацыянальнага, як у першую палову 90-х. Хаця б закансерваваць тое, што ўдалося здабыць. Відаць, змяніліся акцэнты і ў тым, чым непасрэдна займаецца Скарынаўскі цэнтр?**

— Працэс "кансервацыі" культуры можа быць толькі часова неабходным, але не самадастатковым. Бо тады культура перастае быць жывой. Без актуальнасці ўжо назапашанага не створыць нацыянальнага культурнага кантэксту для ўсіх насельнікаў Беларусі і нашых дыяспар за мяжой. Трэба спрыяць таму, каб мінулае дапамагала будучыні. Што да дзейнасці цэнтра, то мы паступова пераходзім ад, так бы мовіць, краязнаўчага ўзроўню да асэнсавання нацыянальна-культурных феноменаў, да развіцця філасофіі культуры. Час для гэтага надышоў — разнастайных фактаў сабрана дастаткова, і крытычныя, незашораныя падыходы да асэнсавання духоўнай спадчыны ёсць. Мы прымаем усе кірункі і школы беларусістыкі — і мадэрновыя, і традыцыйныя.

**— Эклектыкі не баіцеся?**

— Абы не было спрашчэння. Хрысціянства, паганства... Ні ад якога культурнага феномена, калі ён перспектыўны, запатрабаваны і ў той альбо іншай ступені спрыяе нацыянальнаму і духоўнаму аздараўленню насельніцтва, моладзі, не варта адмаўляцца.

**— Вы асобна вылучылі моладзь. Менавіта на яе скіравана прыярытэтная ўвага Скарынаўскага цэнтра?**

— Моладзь знаходзіцца ў самым бядотным стане. Ідэалагічны вакуум і засілле псеўдакультуры разбэшчвае і, натуральна, не дае як след фарміравацца і маральна расці асобе.

**— Дужа складана будзе выцягнуць маладых людзей з расійскага і амерыканскага культурных кантэкстаў...**

— А моладзь — па-за ўсялякімі культурніцкімі кантэкстамі. Да таго той жа расійскі культурны кантэкст у Беларусі — непаўнацэнны. Застаецца правінцыйнасць — не больш. Таму і самарэалізавацца ў ім належным чынам беларуская моладзь проста не можа.

**— Але ж альтэрнатыўны беларускі кантэкст існуе сёння выключна ў выглядзе рэзервацый?**

— Я б так не сказала: проста ён пакуль эпізадычны.

**— Вы — аптымістка...**

— Адназначна. Усё залежыць ад нас. Трэба быць, па-першае, прыгожымі, элегантнымі, мець насамрэч беларускія сем'і, элементарны ўзровень прафесіяналізму і прыстойнасці, чаго бракуе дзяржчыноўнікам і палітыкам. Па-другое, штодзённа і адказна рабіць сваю справу. Па-трэцяе, займаць выразную грамадзянскую пазіцыю, дабівацца ад дзяржавы — прычым, як мага эфектыўнымі і пажадана карэктнымі сродкамі — распрацоўкі і выканання дзяржаўнай праграмы беларусізацыі, а ад СМІ — пашырэння інфармацыйнага *поля*, каб беларускай культуры прадстаўлялася болей прасторы, а сацыяльныя праблемы сталі празрыстымі.

**— Дарэчы, якія стасункі з дзяржавай у Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны?**

— Нашымі паслугамі карыстаюццаМіністэрствы замежных спраў, культуры, адукацыі, беларускія пасольствы за мяжой, Дзяржкамітэты па друку, навуцы, справах рэлігій і нацыянальнасцей і многія іншыя дзяржаўныя структуры.

**— Значыць, вы павінны мець досыць спрыяльныя ўмовы для працы...**

— Мы кінутыя на волю лёсу: належнай падтрымкі няма, але перашкодаў таксама. Нават мой намеснік не мае рабочага месца. Бібліятэчныя кнігі захоўваем дома. А як праводзім "круглыя сталы", то нават даводзіцца зачыняць уваходныя дзверы, паколькі размясціць больш 50 чалавек не можам. Але мы ўсё адно даб'ёмся ўнутранага камфорту і матэрыяльна-тэхнічнай уладкаванасці.

**— Любоў Мікалаеўна, 2000 год будзе для Скарынаўскага цэнтра чымсьці адметным? Ведаю, што ў вас з'явіліся два новыя навуковыя аддзелы з ухілам да хрысціянства...**

— Сапраўды, створаны сектар гісторыі права і палітыка-прававой думкі і аддзел праблем хрысціянства і нацыянальнага развіцця. Глядзім на хрысціянства як на нацыятворчую, культуратворчую, сацыяльна-маральную выхаваўчую сістэму ідэалаў.

**— А якіх цікавых мерапрыемстваў чакаць?**

— Спрычынімся да правядзення Міжнароднага кангрэсу беларусістаў, што пройдзе ў дзве сесіі 22—24 мая і 26—27 верасня, арганізуем у сярэдзіне мая сумесна з Педуніверсітэтам міжнародную канферэнцыю "Беларускае асветніцтва: вопыт тысячагоддзя", а потым яшчэ адну — "Беларуская духоўная традыцыя на мяжы тысячагоддзяў". Кожны месяц будуць праходзіць семінары "Рэлігія і асвета", розныя "круглыя сталы". Напрыклад, у канцы лютага адбудзецца "круглы стол" па пытаннях каталіцкай адукацыйнай сістэмы ў Ірландыі з удзелам тамтэйшых манахаў. Не забудземся і на рэгіёны: у Слоніме разам з Акадэміяй навук наладзім канферэнцыю пра мецэнацтва Сапегаў...

**— Любоў Мікалаеўна, як спраўляецеся на чале сур'ёзнай навуковай установы?**

— Я ўжо год дырэктарам цэнтра, і пэўныя высновы зрабіла. Па-першае, стратэгічная прастора ў краіне для адукаванай і актыўнай асобы вельмі абмежаваная. Па-другое, наконт кіраўніцкага стылю. Мне здаецца, што жанчыны наогул больш схільныя да дэмакратычнай формы кіравання. Але, на жаль, людзі ў нас не гатовыя да самастойнасці і вольнага духу на працы. Часта сутыкаюся з неабавязковасцю, безадказнасцю, недысцыплінаванасцю, адсутнасцю элементарнага ўяўлення пра службовы этыкет. Да таго ёсць стэрэатып, калі чалавек ставіцца да іншых толькі функцыянальна, утылітарна. І ў працоўных, і ў міжасабовых стасунках. А трэба навучыцца разглядаць іншага як асобу, чалавека, а не выключна як частку калектыву, бо кожны — самакаштоўны. А дзеля гэтага неабходна любіць іншага, а перад усім — паважаць сябе. У гэтым — умова жыццёвага поспеху і асабістага шчасця.

**Вёў гутарку**
**Кірыла ПАЗНЯК**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

У Францыі дазваляецца агучваць іншаземнымі мовамі максімум 40% відэа- і кінапрадукцыі. У Ірландыі кожны артыст павінен штомесяц выступаць па-ірландску. У Швецыі падатак ад ганарару за выкананне эстрадных твораў на шведскай мове вышэй на 25%.

Вось і на Украіне Рада па пытаннях моўнай палітыкі пры прэзідэнце прадставіла ў лютым праект праграмы "Аб дадатковых захадах па пашырэнні функцыянавання ўкраінскай мовы, як дзяржаўнай". Будзе праведзена пераатэстацыя дзяржчыноўнікаў на валоданне ўкраінскай мовай, павялічацца падаткі на замежную друкаваную прадукцыю і гастралёрскую дзейнасць. А тэлеканалы і радыёстанцыі, у тым ліку недзяржаўныя, павінны будуць не менш як 50% эфіру вяшчаць па-украінску.

Гэта паспрыяе ўкраінскай культуры і матэрыяльна, і маральна. Можна толькі парадавацца за братоў-украінцаў. Але вельмі верагодна: як толькі пачне выконвацца гэтая праграма расійскага шоу-бізнесу на Беларусі паболее. А стан беларускай культуры і без гэтага вымагае дзяржаўнага рэжыму спрыяння.

### РАМПА

**"Вольная сцэна"**

*19* — "Паваліўся нехта"
*20* — "Лекар паняволі"
*23* — "Узлёт Артура Уі"
*24, 25 і 26* — "Барбара Радзівіл"

**Купалаўскі тэатр**

*19* — "Памінальная малітва"
*20* — "Паўлінка"
*21* — "Парфен і Аляксандра"
*23* — "Лес"
*25 і 26* — прэм'ера

**Малая сцэна Купалаўскага**

*21* — "Трыстан і Ізольда"
*23* — "Крывавая Мэры"
*27* — прэм'ера "Восеньская саната" І. Бергмана

**Малы тэатр**

*19 і 26* — "Камедыя" (у Доме афіцэраў)
*19 і 29* — "ART" (у ДК імя Дзяржынскага)
*26 і 27* — мюзікл паводле твораў К. Чукоўскага "Таямніцы чароўнага гарышча" (у ДК Дзяржынскага).

**Оперны тэатр**

*19* — "Севільскі цырульнік" Дж. Расіні
*22* — "Пікавая дама" П. Чайкоўскага
*26* — творчы вечар народнага артыста РБ Сяргея Картэса
*27* — "Пітэр Пэн" А. Будзько
*29* — "Аіда" Дж. Вердзі

**Рускі тэатр**

*19* — "Пір падчас чумы і..."
*20* — "Вар'ят і манахіня"
*23 і 24* — "Ваўкі і авечкі"
*25* — "Вольны шлюб"
*26* — "Прыцемкам"
*27* — "Раскіданае гняздо"
*29* — "Дзікунка"

**Тэатр-студыя кінаакцёра**

*19 і 20* — "Мы ідзём глядзець "Чапаева"
*22 і 23* — "Фантазіі па Гогалю"
*26 і 27* — "Выкраданне Алены"

**"Хрыстафор"**

*19* — "Добра сядзім!"
*20* — "Жэнефіс"
*26* — "Дзень танкіста"

### ВЫСТАВЫ

*21 лютага* а 17-й гадзіне ў галерэі Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра навучэнцаў (вул Макаёнка, 8; станцыя метро "Маскоўская") адбудзецца адкрыццё выставы "Сцежкамі Язэпа Драздовіча", якую ладзіць творчая суполка "Пагоня" па выніках зімовага пленэру.



### ЗАПРАШАЕ КІНАТЭАТР "ЗМЕНА"

По просьбе гледачоў у кінатэатры "Змена" **з 21 лютага** на працягу трох тыдняў пройдзе паказ фільмаў, створаных паводле аповесцяў Васіля Быкава.

**З 21 па 23 лютага** да Дня абаронцы Айчыны будзе дэманстравацца мастацкі фільм "Узыходжанне" (к/ст. "Масфільм") паводле аповесці "Сотнікаў". Аўтар сцэнарыя і рэжысёр Ларыса Шапіцька.

**З 28 лютага па 5 сакавіка** адбудуцца сеансы фільма "Знак бяды" (2 серыі) к/ст. "Беларусьфільм". Гэтая стужка зроблена кінарэжысёрам Міхаілам Пташуком у 1986 годзе. У галоўных ролях — акцёры Ніна Русланава і Генадзь Гарбук.

Мастацкі фільм "Круглянскі мост" па аднайменнай аповесці Васіля Быкава зняў рэжысёр Аляксандр Мароз у 1989 годзе на "Беларусьфільме". Сеансы запланаваны **на 7—10 сакавіка** гэтага года.

Могуць быць арганізаваны дадатковыя сеансы. *Даведкі па тэл. 235-39-03.*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 17.02. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 835

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12